# Беларускія ВНУ зніжаюць уступныя балы да ўзроўню ПТВ

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 27 (864) 23 ліпеня 2014

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Недабор розуму

Старонкі 6—7.

Сяргей Гудзілін



## Беларусы Данбаса:

«Больш за ўсё баімся, што «апалчэнцы» вернуцца».

Старонка 4.



## Як сепаратысты збілі малайзійскі «Боінг»

Старонка 3.

# ІАЦ замест кадэбіста ўзначаліў беларускамоўны юрыст

Аляксандр Лукашэнка прызначыў на пасаду дырэктара Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта 39-гадовага Аляксея Дзербіна.

Пра гэтага чалавека не так многа звестак. Вядома, што нарадзіўся ў Мінску ў 1975-м годзе. Скончыў юрфак БДУ. Адметна, што пэўны перыяд (1997—1998) ён адпрацаваў загадчыкам аддзела права ў незалежным выданні «Беларускі рынак».

Працаваў у Міжбанкаўскай валютнай біржы, юрысконсультам «Белгазпрамбанка», а таксама на юрфаку БДУ, дзе выкладаў «Фінансавае права». Былыя студэнты кажуць, што запомнілі ягоную фразу: «Я ніколі не буду ўдзельнічаць у фінансавых гульнях з дзяржавай».

Абараняўся Дзербін у былога старшыні Канстытуцыйнага суда і генпракурора Рыгора Васілевіча. Уласна кажучы, пасля ён працаваў на кафедры «Канстытуцыйнага права», якую ўзначальвае цяпер усё той жа Васілевіч.

Апошнім месцам працы Аляксея Дзербіна, якое ёсць у адкрытых крыніцах, значыцца — намеснік кіраўніка Інстытута прававых даследаванняў пры Нацыянальным цэнтры заканадаўчых і прававых даследаванняў Рэспублікі Беларусь. У кніжнай палаце Беларусі ёсць нямала спасылак на навуковыя працы Аляксея Дзербіна.

Яшчэ напрыканцы 1990-х — пачатку 2000-х Дзербін меў цесныя кантакты з многімі прадстаўнікамі незалежнага грамадства. У прыватнасці, ён сябраваў з мовазнаўцам Юрасём Бушляковым, сам размаўляў па-беларуску і нават наведваў адзін з уніяцкіх прыходаў Мінска.

Мама Аляксея, Галіна Дзербіна, навуковец, чалавек таксама блізкі да беларушчыны. Яна з'яўляецца членам камітэта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. А яшчэ выдала грунтоўнае беларускамоўнае выданне «Права і сям'я ў Беларусі эпохі Рэнесансу».

У функцыі Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра ўваходзіць забеспячэнне Аляксандра Лукашэнкі і Адміністрацыі прэзідэнта сацыялагічнай інфармацыяй. На сайце напісана, што ІАЦ займаецца «фарміраваннем стратэгічных накірункаў дзяржаўнай палітыкі».

Ведамства ў розныя гады ўзначальвалі Ніна Шпак і Алег Праляскоўскі. Апошнім кіраўніком ІАЦ быў Аляксандр Базанаў, які прыйшоў туды з КДБ.

У намесніках у Базанава быў «заходнярус», змагар з беларускай мовай і нацыяналізмам і прыхільнік «трыадзінага рускага народа» Леў Крыштаповіч.

**Зміцер Панкавец**





PHOTO.BYMEDIA.NET

# Харкавец сышоў па хваробе

Новы міністр фінансаў пакуль не прызначаны.

Размовы пра адстаўку Андрэя Харкаўца актыўна цыркулявалі апошнія пару месяцаў. І прычынай тут быў не кепскі стан нашай эканомікі і фінасаў, а стан здароўя міністра. Апошнія паўгады Харкавец не з'яўляўся ў стужках навін, не ўдзельнічаў ён у калегіі міністэрства. Не ўключылі яго і ў склад Рады бяспекі, хаця міністр фінансаў там заўсёды прысутнічаў. Паводле нашай інфармацыі, Харкавец цяпер знаходзіцца на лячэнні ў адной з краін Еўразаюза. У яго анкалагічнае захворванне. Адметна, што і папярэднік Харкаўца, Мікалай Корбут, сышоў з пасады па стане здароўя — яго разбіў інсульт.

Біяграфія Андрэя Харкаўца не надта багатая на факты. Нарадзіўся ў 1963 у Мінску. Скончыў наргас у 1985. Ад гэтага самага года прыняты на працу ў Міністэрства фінансаў. Так нязменна і адпрацаваў да цяперашняга моманту.

Найчасцей навіны пра Харкаўца з'яўляліся наступныя: «Увайшоў у склад беларускай дэлегацыі, якая накіравалася...» А горад можна было падбіраць — Маскву, Лондан, Вашынгтон ці Токіа. Крэдыты Беларусь атрымлівала, але наўрад ці гэта прыносіла абсалютна жаданыя вынікі. За час працы Харкаўца на пасадзе міністра фінансаў знешняя дзяржаўная пазыка краіны павялічылася ў 3,3 раза. На пачатак 2009 года ён складаў 3,7 мільярда даляраў, а на пачатак 2014 — ужо 12,4 мільярда даляраў.

**ЗП**

**Фельетон**

# У добры шлях, жніво-2014!

Вось і надышла доўгачаканая пара для аграрыяў нашага штата. У адпаведнасці з указаннямі Прэзідэнта ЗША Барака Абамы, жніво праходзіць арганізавана. Адказнасць кіраўнікоў жастачайшая. У аўторак ва ўрачыстай абстаноўцы на полі ўзорнай фермерскай гаспадаркі «Капіталістычны шлях» адбыліся зажынкі.

Камбайнеры і спецыялісты фермы выстраіліся каля сваіх камбайнаў, з нецярплівасцю чакаючы каманды на старт. Удзельнікі мастацкага калектыву «Іракезы» ўручылі ім кветкі, а таксама пачаставалі ўсіх прысутных леташнімі маісавымі праснакамі. Губернатар ацаніў якасць палёў і пажадаў мясцовым рупліўцам добрых намалотаў.

У прысутнасці членаў заканадаўчага сходу штата кіраўнікоў фермерскіх гаспадарак механізатараў «Капіталістычнага шляху», а ў іх асобе ўсіх механізатараў штата з пачаткам жніва павіншаваў намеснік губернатара — начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання штата Майкл Роўсы.

Кіраўнік гаспадаркі Джон Каслоў расказаў пра вытворчыя магутнасці фермы: «На сёння ў раёне маецца больш за 40 адзінак збожжаўборачнай тэхнікі, 100% складаюць машыны, сабраныя ў Злучаных Штатах Амерыкі. Гэта дазваляе хутка даставіць запасныя часткі, а таксама гарантуе падтрымку вытворцы ў правядзенні тэхнічнага абслугоўвання тэхнікі ў пагарантыйны перыяд эксплуатацыі».

У гэтым годзе кукурузны клін Аёўшчыны, згодна з дадзенымі штатсельгасхарчу, складае 2579 гектараў. Культура паспела добра, і неабходна ў сціслыя тэрміны ўбраць яе з палеткаў, каб не страціць каштоўныя тоны.

Сімвалічна, што «Зажынкі-2014» супалі з 60-гадовым юбілеем першага намесніка начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання штата Пітэра Стоўна. Проста ў кукурузе, ва ўрачыстай абстаноўцы губернатар і начальнік сельгасупраўлення штата ўзнагародзілі юбіляра граматамі за шматгадовую і плённую працу ў сістэме аграпрамысловага комплексу, актыўнае садзейнічанне ў рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі.

8 мільёнаў тон — столькі кукурузы абяцаюць аграрыі сабраць сёлета. У Аёве, традыцыйна самым ураджайным штаце, за першы тыдзень мае быць сабрана больш за 35 працэнтаў плошчаў. Прэзідэнт ЗША Барак Абама падчас наведвання штата Аёва заклікаў аграрыяў трымаць гэту планку.

Удзельнікаў жніва і юбіляра сваімі вясёлымі песнямі і заўзятым выкананнем падтрымалі артысты калектыву «Іракезы», даўшы тым самым зарад бадзёрасці і пазітыву на ўсю ўборачную кампанію.

І вось фермер дае каманду: «Па машынах!». І паплылі адзін за адным камбайны-караблі па акіяне хлебнай нівы, напаўняючы зярнятка за зерняткам бункеры нашай капіталістычнай радзімы ўраджаем гэтага года. У добры шлях, жніво-2014!

**Сяргей Мікулевіч, па матэрыялах газеты «Капіталістычная Амерыка»**

**Самае чытанае на nn.by за 16—22 ліпеня**

1. Баевікі збілі пад Данецкам малайзійскі «Боінг-777» з 280 пасажырамі на борце
2. У Луганску ідуць вулічныя баі, дзясяткі забітых
3. Бес дакладваў пра збіццё «Боінга» ў Генштаб Расіі
4. Гіркін: Трупы ў малайзійскім «Боінгу» — «нясвежыя», памерлі некалькі сутак таму
5. У Турцыі адбылася масавая бойка украінцаў і расейцаў
6. Украінская армія вызваліла Рубежнае, камандзір баевікоў пагражае адпомсціць
7. Настасся Касянкова: Прыгожая жанчына мае любога мужчыну
8. Шакуючае інтэрв'ю намесніка міністра сувязі Расіі тэлеканалу «Дождь»
9. У Беларусі адмовіліся ад будаўніцтва асфальтавых дарог
10. Стралкоў (Гіркін) прызнаў стратэгічную паразу баевікоў пад Луганскам: «Паўтор Славянска»

# Як сепаратысты збілі малайзійскі «Боінг»

**298 чалавек загінулі**, з іх 80 дзяцей.

Расійскія СМІ публікавалі горы лухты. Але насамрэч няясным застаецца толькі адно пытанне: ці баевікі Данбаса самі кіравалі зенітным комплексам «Бук», які паставілі ім з Расіі, ці тое рабілі напрамую расійскія інструктары?

Ці мог то быць комплекс, захоплены баевікамі ва ўкраінцаў, а не пастаўлены з Расіі? Гэта амаль выключана. Ніякіх пэўных звестак пра такі захоп няма. Дый захапіць яго дзейным практычна немагчыма. Комплекс лёгка выводзіцца з ладу, умоўна кажучы, адным ударам малатка, і аднаўленню ў палявых умовах практычна не падлягае.

Трагедыя адбылася 17 ліпеня. Самалёт малайзійскіх авіяліній Boeing-777 выконваў рэйс з Амстэрдама ў Куала-Лумпур. Ён ляцеў на вышыні 10 кіламетраў у калідоры, прызначаным для грамадзянскай авіяцыі.

Трагедыя адбылася каля горада Тарэз. Гэта тэрыторыя, якую кантралююць баевікі так званай «Данецкай народнай рэспублікі». Гэтая авіякатастрофа ўвайшла ў дзясятку найбуйнейшых за гісторыю чалавецтва.

Літаральна за паўгадзіны да абвяшчэння пра крушэнне малайзійскага «Боінга» сепаратысты заявілі, што збілі ля Тарэза ўкраінскі самалёт Ан-26. Запіс у інтэрнэце асабіста зрабіў важак баевікоў Стралкоў (сапраўднае прозвішча — Гіркін). З ноткамі радасці паведамленне растыражавалі расійскае афіцыйнае агенцтва РІА «Навіны» і прапуцінскі сайт «Лайфньюс». Як толькі з'явілася навіна пра падзенне грамадзянскага самалёта, старонкі хуценька падцерлі.

Выглядае, што тыя, хто страляў, зблыталі ваенны самалёт з міжнародным рэйсам.

У панядзелак 14 ліпеня каля таго самага Тарэза (горад, дарэчы, у свой час назвалі ў гонар кіраўніка кампартыі Францыі) было знішчана адразу два ўкраінскія самалёты: транспартны Ан-26 і штурмавы Су-25. Украінскі бок нават заяўляў, што Су-25 быў знішчаны расійскім вайсковым самалётам — не верылі, што баевікі здольныя збіваць на такой вышыні. Але самі сепаратысты заявілі, што выкарыстоўвалі зенітна-ракетныя комплексы «Бук-М1». Тым самым ліквідуючы перавагу ўкраінцаў у паветры.

Распрацоўку «Бука» пачалі ў 1972 годзе. На ўзбраенне яго прынялі ў 1979. У 1980-я, і нават пры Ельцыну, удасканальвалі. Нават першыя мадэлі былі моцнай зброяй, а апошнія даюць амаль стапрацэнтную гарантыю паражэння самалёта і верталёта ў межах дасяжнасці.

«Бук-М1» — гэта не проста зенітка, а цэлы комплекс машын. Гэта станцыя выштукавання цэлі, камандны пункт, пусказарадная ўстаноўка і самаходная агнявая ўстаноўка. З фотаў, зробленых звыклымі інтэрнаўтамі і ўкраінскай разведкай, вынікае, што сепаратысты мелі самаходную агнявую ўстаноўку.

Ці быў у іх таксама камандны пункт? Няясна. Ці магчыма выкарыстоўваць «Бук» без каманднага пункта?

«На пускавой установцы таксама ёсць радар для выштукавання цэлі. Ён меншай магутнасці дальнасці — не 160 кіламетраў, а 60—70. Тэарэтычна абстрэл цэлі магчымы. Але для гэтага пускавую ўстаноўку трэба змясціць на ўзгорак», — кажа вайсковы аглядальнік Аляксандр Алесін.

Паводле паведамленняў расійскіх СМІ, установка «Бук» магла стаяць на ўзвышшы Савур-Магіла. Ад яго да горада Снежнае, дзе «Бук» трапіў у аб'ектыў камер, усяго 15 кіламетраў.

Аляксандр Алесін называе «Бук» адным з найбольш паспяховых зенітна-ракетных комплексаў. Падчас канфлікту 2008 года ў Грузіі малая краіна «Букамі» здолела збіць аж пяць расійскіх самалётаў. «Гэтыя ўстаноўкі былі перададзеныя Украінай, — расказвае Алесін. — Ёсць звесткі, што абслугоўвалі іх тады таксама ўкраінскія спецыялісты», — кажа эксперт.

Дарэчы, у такім разрэзе ўзнікае пытанне: ці маглі быць у сепаратыстаў адпаведныя спецыялісты, ці кіраваннем установкі займаліся расійскія гастралёры? У другім выпадку гэта міжнароднае злачынства, якое цягне найвышэйшую адказнасць.

Літаральна праз некалькі гадзін пасля здарэння ўкраінскія спецслужбы апублікавалі перахоп размовы баевіка Беса (Ігара Безлера, у мінулым афіцэра Галоўнага разведупраўлення Расіі) з маскоўскім куратарам, дзе першы прызнаецца, што яго людзі брали непасрэдны ўдзел у збіцці самалёта.

Алесін таксама падкрэслівае той факт, што паражаючыя элементы ў «Бука» — гэта свайго роду шрапнель, сталёвыя шарыкі, ромбікі ці кубікі. Такім чынам, пры выбуховым удары ўтвараецца сіта. Газета Financial Times надрукавала здымкі элементаў «Боінга», якія сапраўды нагадвалі друшляк.

У катастрофе загінулі 192 падданыя Нідэрландаў, 44 малайзійцы, у тым ліку 15 членаў экіпажа, 27 аўстралійцаў, 12 інданезійцаў, 10 брытанцаў, 4 немцы, 4 бельгійцы, 3 філіпінцы, 1 канадзец і 1 новазеландзец.

На сёння Украіна рыхтуе пазовы аб прызнанні светам «ДНР» і «ЛНР» тэрарыстычнымі арганізацыямі.

**Зміцер Панкавец**




**Дэталь «Боінга», падобная да сіта. След ад запоўненай шрапнеллю ракеты «Бука».**




**Так мусіў ляцець (сіняя лінія) Пуцін, каб на яго рыхтавалі замах пад Данецкам.**

### Фэйкі

Легкаверныя прымаюць усякую нісенітніцу. То з'явілася інфармацыя, што мэтай удару ўкраінцаў быў самалёт прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна, які ляцеў у Маскву з Варшавы. Блогеры адрэагавалі імгненна, намаляваўшы пакручасты маршрут, якім мусіў рухацца самалёт Пуціна, каб пралятаць над Данбасам. Гэта сапраўды, як ехаць з Мінска ў Берлін праз Маскву.

Потым «крыніцай інфармацыі» стаў твітар «іспанскага дыспетчара аэрапорта «Барыспаль». Па словах гэтага Карласа, перад знікненнем «Боінга» побач з ім ляцелі ўкраінскія ваенныя самалёты. Але аказалася, што гэта брахня, і ніякі Карлас не працуе дыспетчарам у Барыспалі. Больш за тое, неўкраінец па законах нават не можа атрымаць пасведчанне, каб працаваць авіядыспетчарам.

Шавіністычны сайт Imperiya.by пайшоў далей: «Нікому не прыходзіла думка, што «Боінг», які ўпаў у Данбасе, і ёсць менавіта той «Боінг», які прапаў над Індыйскім акіянам?!» «Імперыя» спасылаецца на словы Стралкова, які ўчуў ад ахвяр авіякатастрофы «характэрны трупны пах, які не мог утварыцца за такі кароткі прамежак часу».

Ну, фільм жахаў і 38 папугаяў.

Чым хлусня нахабнейшая, тым лягчэй у яе верыць замбаванае насельніцтва.

Су-25 — различия между версиями

**Калі Міністэрства абароны Расіі вылучыла меркаванне, што збіць самалёт мог украінскі Су-25, у расейскай Вікіпедыі адразу падправілі характарыстыкі самалёта, каб у дапытлівых чытачоў узнікала менш пытанняў.**


De Telegraaf

MOORDENAARS

**«Забойцы». З такой вокладкай выйшла нідэрландская газета De Telegraaf, на ёй змешчаны твары байцоў «Данецкай народнай рэспублікі».**



**Гэта фота дзяўчынкі з малайзійскага самалёта. Знята і адаслана перад узлётам.**

**Хто ляцеў на збітым «Боінгу»?**

Сярод вядомых асобаў былі дэпутат нідэрландскага парламента Вілем Вітзвен. А таксама 60-гадовы прафесар Джозэф Ланж, экс-прэзідэнт Міжнароднага таварыства барацьбы са СНІДам (IAS). На борце таксама была жонка Ланжа Жаклін і іх пяць дачок.

Ланж прысвяціў сваё жыццё даследаванню ВІЧ, пачаўшы пошукі лекаў у 1983 годзе. Ён вёў пілотныя даследаванні антывірусней тэрапіі.

А англійскі футбольны клуб «Ньюкасл» расказаў, што ў авіякатастрофе загінулі два верныя фанаты каманды — Джон Алдэр і Лаям Суіні, якія ляцелі ў Новую Зеландыю, каб падтрымаць свой любімы клуб.

Большасць жа пасажыраў лайнера былі звычайнымі людзьмі, што ляцелі на адпачынак у Азію. Сярэдні еўрапеец можа гэта сабе дазволіць. І хто ведаў, што такое здарыцца...

«Наша Ніва» паразмаўляла з беларусамі, якія жывуць **у Краматорску, Данецку і Шахцёрску**.

# Беларусы Данбаса: «Больш за ўсё баімся, што «апалчэнцы» вернуцца»



Украінскія войскі кантралююць Краматорск.

REUTERS

**Краматорск: «Мае дзеці з'ехалі ў Мінск, сюды яны ўжо не вернуцца»**

«Цяпер у Краматорску ціха, каля аэрадрома размясцілася Нацгвардыя, так званыя апалчэнцы сышлі, дзякуй Богу. Тыдзень без абстрэлаў», — расказвае беларуска Таццяна, якая ўжо амаль 30 гадоў жыве ў Краматорску.

Як і два з паловай месяцы таму, калі мы размаўлялі папярэдні раз, яна просіць не называць яе прозвішча. Але страху ў словах жанчыны ўжо значна менш. «У пазамінулую нядзелю ўкраінская армія ўвайшла ў Краматорск, і ўжо ў панядзелак пачалі выплачваць пенсіі і заробкі. Да гэтага два месяцы людзі грошай не бачылі, — кажа спадарыня Таццяна. — Тэхніку, што згарэла, прыбралі, у горадзе ўжо няма блокпастоў — яны засталіся толькі на выездзе. Раней жа ўвесь цэнтр быў перагароджаны.

Ствараюцца камісіі, якія фіксуюць разбурэнні дамоў, каб іх жыхары потым маглі атрымаць кампенсацыю. Разбурэнняў у некаторых раёнах шмат — каля маёй працы, напрыклад, вельмі моцна пацярпелі дзевяціпавярховыя дамы. Не зусім яшчэ наладжанае водазабеспячэнне, бліжэй да аэрадрома вады няма — яе прывозяць туды машынамі. Армія займаецца размінаваннем навакольных палёў. Увогуле, горад вяртаецца да жыцця, больш-менш ходзяць маршруткі, на вуліцах ужо можна пабачыць усмешкі, а тыя, хто з'ехаў у іншыя ўкраінскія гарады, паступова прыязджаюць назад».

Падчас актыўных баявых дзеянняў горад, кажа жанчына, быў напалову пусты: тыя, хто меў магчымасць, стараліся выехаць. «У маім дзевяціпавярховым доме на сем пад'ездаў больш за палову вокнаў былі шчыльна заклееныя, і так па ўсім горадзе — ён быў амаль пусты. Цяпер у гэтых вокнах вечарамі пачынае з'яўляцца святло. Цягнікі не хадзілі, з'ехаць можна было толькі на аўтамабілях праз Ізюм, адкуль ужо ішлі аўтобусы да Харкава. Яшчэ арганізавана вывозілі жанчын і дзяцей у Расію, але ніхто не ведае, што з імі зараз.

Шмат хто з беларусаў паехаў у Беларусь. Мае дзеці з'ехалі ў Мінск, думаю, сюды яны ўжо не вернуцца. Мы з мужам з'язджаць не планавалі: я працую ў дзіцячым садку, я матэрыяльна адказная, не магла кінуць сваю працу. Садок быў адчынены нават падчас баявых дзеянняў, хоць прыводзілі да нас па 5—7 дзетак — справа ў тым, што працягвалі працаваць заводы, і бацькі па-ранейшаму ішлі на змену. У той жа час мабільнай сувязі амаль зусім не было, дазваніцца можна было толькі з хатняга тэлефона, у некаторых раёнах не было электрычнасці, на ўскрайках горада былі праблемы з прадуктамі, лекамі, хаця ў цэнтры супермаркеты працавалі».

Наступствы баёў адчуваюцца не толькі па разбураных дамах ці зруйнаванай інфраструктуры, кажа Таццяна. «Дзеці ў садку не падыходзяць да цацак ці настольных гульняў, яны гуляюць толькі ў вайну. Пры якім заўгодна грукаце яны лякаюцца, іх пачынае трэсці. Увогуле, за гэты час самым страшным было сядзець у сховішчы і слухаць, як плачуць дзеці».

Сепаратыстаў жанчына называе выключна «так званыя апалчэнцы» і кажа, што больш за ўсё яна баіцца, што тыя могуць вярнуцца. «Марадзёрства было звычайнай з'явай. Адбіралі машыны ў людзей, проста так забіралі новыя з салонаў. Шмат якія крамы з нехарчовымі таварамі зачыняліся, баючыся марадзёрства. У той жа час былі сярод сепаратыстаў і тыя, хто спрабаваў спыніць гэта, да таго ж яны разагналі наркадылераў і гандляроў самагонам.

Цяпер украінская армія прынесла сюды мір, і мы радыя гэтаму. Украіна павінна быць адзінай. Мясцовыя віталі армію крыкамі «ўра» і ўздымалі ўкраінскія сцягі, хаця я не магу сказаць, што так рэагавалі абсалютна ўсе: старыя людзі глядзяць расійскае тэлебачанне, вераць усяму,што там паказваюць, і амаль не маюць іншых крыніц інфармацыі.

Больш за ўсё людзі, незалежна ад палітычных поглядаў, баяцца, што так званае апалчэнне вернецца: ад Данецка да нас толькі 80 км, і мы не можам быць спакойнымі. На вуліцах увесь час чуеш: «Што, калі гэтае зацішша ненадоўга?» У другі раз вытрымаць такое было б вельмі цяжка псіхалагічна».

**Данецк: «Мы ж глядзім расійскія каналы»**

«Я жыву ва ўсходняй частцы горада, а ў заходняй ідзе бой з артылерыяй, бамбёжкамі, — расказвае Сафія Пасынкава, старшыня Данецкага культурнаасветніцкага аб'яднання беларусаў «Нёман». — Абстралялі рынак, чыгуначны вакзал — людзей з яго, на шчасце, эвакуіравалі. Бомба трапіла ў адзін з цэхаў завода «Тачмаш» побач з цэнтрам горада, забіта як мінімум 5 працоўных. Раён Пяскоў, Карлаўкі разбомблены ледзь не цалкам, там амаль не засталося дамоў. Тут ідзе самая сапраўдная вайна. У маім доме пакуль ёсць вада і электрычнасць, а ў Куйбышаўскім раёне, раёне аэрапорта — няма ўжо 2—3 тыдні. Пенсіі ўсе атрымалі ў пачатку месяца,але што будзе далей, незразумела — банкі і банкаматы не працуюць. Людзі могуць выехаць з горада ці праз дээнэраўцаў, якія накіроўваюць іх у Расію, ці праз украінскія пункты дапамогі ўцекачам у Краснаармейску, Валнавасе. З горада з больш як мільённым насельніцтвам ужо з'ехала каля 150 тысяч чалавек.

Але шмат хто не хоча пакідаць свае дамы: у горадзе квітнее марадзёрства, нават у транспарт могуць зайсці ўзброеныя людзі і пазабіраць партманэ ці ўпрыгожанні.

Шмат злачынцаў выпусцілі з турмаў, і некаторыя з іх пайшлі ў шэрагі «ДНР», каб атрымаць зброю. Міліцыя ж не мае магчымасці працаваць у такой абстаноўцы, яе фактычна няма.

Сыны вывезлі сем'і, а самі засталіся са мной, хоць я не раз пераконвала іх з'ехаць. Я баюся, што «ДНР» аб'явіць якуюнебудзь мабілізацыю, як ужо абвясціла камендацкую гадзіну і ваеннае становішча — і што, маім сынам давядзецца ісці ваяваць на іх баку? Пад Дабраполлем, дзе стаіць украінская армія, у мяне родныя — яны што, пойдуць ваяваць з аднаго боку, а мае сыны з іншага?

Гэтай вайны не павінна быць. Пакутуюць мірныя людзі, і калі ўжо шчыра, да гэтых ахвяр нікому няма справы ні з таго, ні з іншага боку».

**Шахцёрск: «Гэта штучная, прыдуманая вайна»**

Галіна Пятроўна жыве ў сяле Маладзецкім, у прыгарадзе Шахцёрска. Тут не страляюць, аднак баявыя дзеянні ідуць літаральна побач, вакол горада. «Мы чуем усе выбухі і страляніну, у людзей паніка, — кажа жанчына. — Усе спяць у адзенні, трымаюць побач дакументы і сумку з неабходнымі рэчамі. У нас у прыватных дамах ёсць сутарэнні, у горадзе ж у шматпавярховіках яны затопленыя, там немагчыма схавацца. У інтэрнаце гандлёвага тэхнікума жывуць уцекачы, куды ім падзецца? Паўсюль акопы, па пасевах ідуць танкі.

Як страшна, калі гарыць поле пшаніцы! Гэта жудасна, ніхто не мог уявіць, што ва Украіне магчыма такое.

Цяпер у нас ціха — відаць, таму, што на месцы падзення «Боінга» працуюць эксперты АБСЕ, хаця нядаўна мы чулі моцныя залпы нейкай артылерыйскай установкі — я не вайсковы чалавек і не разбіраюся,што гэта, але мы перапужаліся». Нашая размова перарываецца моцным шумам і каментарамі: «Знішчальнікі! У які бок паляцелі?»

Праз хвіліну Галіна Пятроўна працягвае: «Самалёты абазначаюць пагрозу, гэта раней мы махалі ім рукамі... Я не магу сканцэнтравацца праз страх. Гінуць мірныя людзі, гэта знаёмыя, сваякі. Напэўна, гэта «непазбежныя страты», але ніхто не мае права забіваць мірных людзей! Навошта разбамбілі хлебазавод і жылы дом у Снежным? Там і блізка не было апалчэнцаў! Людзі прыгнечаныя, немагчыма выйсці на вуліцу і пабачыць, каб нехта ўсміхаўся. Мы нікому не патрэбныя».

Жанчына кажа, што шмат хто з беларусаў з'язджае — у тым ліку і на гістарычную радзіму. Яна ж пакідаць свой дом не збіраецца. «Кожны дзень я атрымліваю па 3-5 тэлефанаванняў ад беларусаў, званю ў пасольства, даю ім кантакты, нейкую інфармацыю. З'язджаюць у асноўным тыя, хто мае родных у Беларусі. Я грамадзянка Украіны, пражыла тут ужо 40 гадоў і не хачу нікуды з'язджаць.

Я аграном, я шмат чаго зрабіла для эканомікі Данбаса. Гэтая вайна нейкая штучная, прыдуманая, яна ненатуральная і ненармальная для Украіны, мы не разумеем, як такое магло здарыцца.

Пра настрої ў грамадстве я скажу вам так: людзі падтрымаюць таго, хто прынясе мір на гэтую зямлю».

**Ганна Бадзяка**

# 400 наручнікаў, 500 тэлефонаў і элітны посуд для рэзідэнцыі

Жыццё краіны ў люстэрку **дзяржаўных закупаў**.

Інфармацыя пра ўсе беларускія дзяржаўныя закупкі размяшчаецца на спецыяльным інтэрнэт-сайце. Установы публікуюць свае заяўкі, на якія можа адгукнуцца любая ахвотная юрыдычная асоба. Сярод прапановаў прэтэндэнтаў абіраецца самая выгадная.

«Наша Ніва» сабрала самыя цікавыя дзяржаўныя закупкі апошняга часу.



Чыноўнікі вымушаныя перасаджвацца на Geely S7.



Такі тэлефон хацелі набыць судовыя выканаўцы, але за іх перадумалі.

### Набор бронекамізэлек і электрашокераў

Галоўнае ўпраўленне камандуючага ўнутранымі войскамі зрабіла вялікую замову — больш чым на $800 тысяч. Больш за палову гэтых грошай мусіла пайсці на куплю аўтобусаў: шэсць пасажырскіх бусаў і шэсць машын для перавозкі вайскоўцаў у грузавым адсеку.

Але ўнутраныя войскі спрабавалі вырашыць не толькі транспартнае пытанне, але і абнавіць інвентар. Дзеля гэтага мелі закупіць 185 супрацькульных шлемаў (коштам па $320), 424 бронекамізэлькі (па $117), а таксама 99 электрашокераў (па $70). Найтанней для бюджэту мусілі абысціся 80 панарамных масак (па $25) і 403 наручнікаў (па $9).

Зрэшты, закуп не адбыўся ні па адной з гэтых заявак.

### Дарагія мабільнікі — больш не трэба

Ад пачатку года ў Беларусі была створана адзіная сістэма судовых выканаўцаў. Для працы кожнаму судоваму выканаўцу патрэбны мабільны тэлефон, ды не абы-які. Сярод галоўных патрабаванняў ёсць доступ праз інтэрнэт да баз дадзеных — пашпартнай, ДАІ, мабільных аператараў, кадастравага агенцтва...

У галоўным упраўленні юстыцыі Брэсцкага аблвыканкама сфармулявалі заяўку на куплю 159 тэлефонаў Samsung Galaxy S3. На кожны з іх усталявалі недальнабачную цану — $500, прытым што ў крамах такія мабільнікі з беларускай сертыфікацыяй прадаюцца на трэціну танней. Да іх было вырашана дакупіць некалькі Samsung Galaxy S4 (за $600) і адзін Samsung Galaxy S5 (за $940).

У аблвыканкаме патлумачылі, што тэлефоны будуць купляць за ўласныя грошы. 10% ад спагнанага дастаецца сістэме судовых выканальнікаў, і гэтыя сродкі вырашана патраціць на тэлефоны. Дый на канчатковую цану яны нібыта разлічвалі меншую, чым указвалася ў заяўцы.

Тым не менш, праз некалькі дзён у брэсцкім упраўленні юстыцыі была скліканая камісія, якая аднагалосна вырашыла адмовіцца ад закупкі.

У іншых абласцях заяўкі былі не такія дарагія. Напрыклад, на Гомельшчыне хацелі купіць 196 тэлефонаў па $250, на Віцебшчыне — 211 па $410. Але ў выніку ад закупак адмовіліся ўсе абласныя ўпраўленні юстыцыі.

Нацбанк купляе 43 ноўтбукі і 4 планшэты сярэдняй цаной $920 за кожны.

Салігорскі домабудаўнічы камбінат шукае 3D-тэлевізар LG з дыяганаллю 70 цаляў (178 см) за $5700.

Нацыянальны інстытут адукацыі набывае 220 друкаваных камплектаў «сцяг і герб Беларусі» па 400 тысяч рублёў за кожны.

Міністэрства абароны купляе 455 тон бульбы за $140 тысяч. У пераліку атрымліваецца па 3200 рублёў за кілаграм.

### Абсталяванне для рэзідэнцыі

Палац незалежнасці стаў працоўнай рэзідэнцыяй Аляксандра Лукашэнкі. Будынак быў урачыста адкрыты ў канцы 2013 года, але яго працягваюць абсталёўваць дагэтуль. Свежая прапанова — $100 тысяч за тое, каб абсталяваць рэзідэнцыю відэанагляданнем і сувяззю. Грошы на гэта дае мясцовы бюджэт. Усе ахвотныя зарабіць могуць дасылаць свае заяўкі да канца тыдня.

А вось посуд у Палац незалежнасці так ніхто і не завёз. Дзяржава гатовая заплаціць пастаўшчыку $250 тысяч, прайшлі паўторныя таргі, але ніводнай заяўкі ад удзельнікаў так і не паступіла.

### Райвыканкамы перасаджваюцца на «Джылі»

Вясной 2013 года дзяржаўным арганізацыям забаранілі купляць легкавікі, даражэйшыя за 25 тысяч еўра. Да прыняцця ўказа райвыканкамы масава закуплялі звышдарагія ўседарожнікі. Цяпер чыноўнікам насамрэч давялося абмежаваць апетыты.

Самая дарагая з актуальных заявак — пошук легкавіка для КДБ. Упраўленне вайсковай контрвыведкі хоча набыць аўтамабіль за $25 тысяч. Патрабаванняў да канкрэтнай мадэлі няма.

А вось райвыканкамы шукаюць менавіта «Джылі». Напрыклад, у Крычаве гатовыя аддаць $22 тысячы за красовер Geely Emgrand X7. Чыноўнікі ў Нясвіжы будуць ездзіць на Geely SC 7 коштам $14 тысяч.

### 3200 клюшак

Хакейныя клубы маюць патрэбу ў клюшках. Паводле нарматываў, кожнаму гульцу выдзяляецца па 4 клюшкі на месяц, бо яны пастаянна ламаюцца.

Часам інвентар застаецца з мінулага сезона, але перад пачаткам новага сезона ўсё адно дакупляецца. «Еўрарадыё» падлічыла, што хакейныя клубы «Шахцёр», «Гомель», «Ліда» і «Металург» на наступны чэмпіянат замовілі больш за 3200 клюшак на агульную суму $750 тысяч.

**Ягор Марціновіч**

## Замест асфальтавых дарог будуць бетонныя

Тэхнічныя нормы змянілі, каб нагрузіць **цэментавыя заводы**.

Новыя дарогі ў Беларусі будуць будаваць з цементабетонным пакрыццём. Такая норма ўтрымліваецца ў распрацаваным па даручэнні Савета міністраў тэхнічным кодэксе ўсталяванай практыкі.

У Беларусі ўжо ёсць участкі бетонных дарог — напрыклад, пры выездзе з Мінска ў бок Віцебска і Слуцка.

Цяпер з бетону прапануецца будаваць магістральныя вуліцы сярэдніх і малых гарадоў, галоўныя вуліцы пасёлкаў і сельскіх населеных пунктаў. Асфальт прыберагуць для вялікіх гарадоў.

«Гэта станоўча адаб'ецца на фінансавых выніках цэментавых заводаў», — тлумачыць віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін. Мадэрнізацыя, якая прайшла на цэментавых заводах у Краснасельскім, Крычаве і Касцюковічах, не акупляецца, бо атрыманая прадукцыя даражэйшая, чым у літоўцаў.

**ЯМ**

**Перавагі бетонных дарог**

Бетоннае пакрыццё служыць да 20–30 гадоў, а асфальтавае — 4—7 гадоў.

Вялікая трываласць дазваляе прапускаць усе віды цяжкага транспарту, бетонная дарога не мае хваляў і калейнасці.

Экалагічнасць: пры спёцы не выдзяляе шкодных рэчываў.

**Недахопы бетонных дарог**

Бетоннае пакрыццё на 70-80% даражэйшае за асфальтавае.

Патрэбна шмат часу на ўкладку пакрыцця.

Пакрыццё не такое роўнае, праз перапады тэмпературы ўзнікаюць швы.



## Сцісла

### Сярэдні беларус зарабляе $480

Белстат пралічыў медыянны заробак у краіне. У маі 2014 года палова беларусаў атрымлівала менш за $480 «бруднымі», палова — больш за $480.

Пры гэтым кожны трынаццаты беларус зарабляў $1000 і больш, а кожны пятнаццаты — $200 і менш.

### Нацыянальны стадыён пабудуе Чыж

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб будаўніцтве футбольнага стадыёна ў Мінску. Да канца 2018 года гарадскія ўлады рэканструююць стадыён «Трактар», а адна з кампаній мільянера Юрыя Чыжа пабудуе побач з ім футбольную арэну змяшчальнасцю 33—35 тысяч чалавек і гандлёвы цэнтр. Беларусь будзе змагацца за правы правесці некалькі гульняў чэмпіянату Еўропы па футболе — 2020 на гэтым навабудзе.

### Птушка з «Дзяржынскага» патаннее

Міністэрства эканомікі Беларусі загадала агракамбінату «Дзяржынскі» знізіць цэны на паўфабрыкаты з мяса птушкі. Чыноўнікі запатрабавалі, каб птушкафабрыкі зменшылі цэны, якія рэзка выраслі два месяцы таму. Астатнія вытворцы адкруцілі цэннікі, а «Дзяржынскі» ігнараваў заўвагі.

### Другую кальцавую ацанілі ў $530 мільёнаў

Трэба пабудаваць каля 160 км трасы, рэшта ўжо існуе ў выглядзе іншых дарог. Участак ад трасы М3 «Мінск—Віцебск» (раён Астрашыцкага Гарадка) да дарогі М6 Мінск—Гродна (раён Ракава) адкрыюць у 2016 годзе, а рэшту — у 2018-м. Дарога стане платнай.

### Начальнікам ЖЭСаў будуць плаціць па $1000

У Мінску плануюць павялічыць заробкі супрацоўнікам ЖЭСаў, каб павялічыць прэстыж гэтай працы. Павышэнне закране і простых работнікаў, — дворнікаў, сантэхнікаў, электрыкаў і іх начальства. Заробак начальніка ЖЭСа будзе складаць 10 мільёнаў рублёў.

### «Беларусбанк» больш не самы прыбытковы

У першым паўгоддзі 2014 года прыбытак найбуйнейшага банка краіны, «Беларусбанка», скараціўся ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ў два разы. $45 мільёнаў дазволілі яму заняць толькі чацвёртае месца, ён саступіў «Белаграпрамбанку», «Белгазпрамбанку» і «Прыёрбанку».

**ЯМ**

# І жук, і жаба, і کракадзіл

**У ваенныя вучылішчы і аграрныя ўніверсітэты можна паступіць з трыма баламі са ста!**

На некаторыя спецыяльнасці недабор.

Неймаверна, але адпаведна з пастанаўленнем Міністэрства адукацыі №106 ад 15 ліпеня нават трох балаў на ЦТ са ста па кожным з прадметаў хопіць, каб паступіць:

— у ваенныя вучылішчы,

— на ваенныя факультэты,

— на спецыяльнасці: «фізкультура і спорт», «вытворчасць, захоўванне і перапрацоўка прадукцыі раслінаводства», «жывёлагадоўля, рыбаводства, пчалярства», «сельскае будаўніцтва і ўладкаванне тэрыторый», «меліярацыя і водная гаспадарка», «аграінжынерыя».

А зараз зрабіце глыбокі ўдых, спакойна выдыхніце і паспрабуйце асэнсаваць папярэдні абзац.

Тры балы! Каб набраць столькі са ста магчымых, трэба пастарацца. Нават чалавек, які ніколі ў вочы не бачыў падручніка, можа проста наўздагад праставіць галачкі ў бланку і спакойна пераадолець гэтую мяжу.

Выходзіць, набіраюць такіх, каторыя і пісаць-чытаць не ўмеюць?



Сяргей Гудзілін

**Што маем**

40% тых, хто пісаў ЦТ па матэматыцы, не змаглі набраць мінімальныя для паступлення ў ВНУ 15 балаў. Няўдалых фізікаў — 41%.

За ўдзел у парадзе на Дзень рэспублікі некаторыя студэнты атрымліваюць «аўтаматы» па прадметах.

### Дык гэта ж прыярытэтныя сферы (на словах)!

Прыгледзімся да спісу спецыяльнасцяў, на якія збіраюцца набіраць гэтакіх трохбалавых. Сярод накірункаў адукацыі мы пабачым менавіта тыя сферы, якія пазіцыянуюцца нашымі ўладамі як галоўныя ў развіцці Беларусі. Абарона краіны, сельская гаспадарка, фізічная культура і спорт. Ці не перадавікі гэтых відаў дзейнасці паглядаюць на нас з білбордаў? Ці не яны атрымліваюць кватэры, крэдыты, пасады?

Паступленне з трыма баламі — яскравае сведчанне крызісу і сістэмы адукацыі, і грамадства.

Не нашмат лепшая карціна і на многіх іншых спецыяльнасцях.

Парогавыя балы таксама істотна зніжаны на спецыяльнасці «пачатковая адукацыя», «матэматыка і інфарматыка», «фізіка і інфарматыка», «прафесійнае навучанне», «матэматыка (навукова-педагагічная дзейнасць)», «фізіка (навукова-педагагічная дзейнасць)», «прыкладная матэматыка (навукова-педагагічная дзейнасць)», «прыродаахоўная дзейнасць (экалагічны маніторынг)», «абсталяванне», «транспарт», «металургія», «энергетыка», «лясная прамысловасць», «хімічная прамысловасць», «харчовая прамысловасць», «лёгкая прамысловасць», «аўтаматызацыя», «землеўпарадкаванне, геадэзія, картаграфія і тапаграфія», «ахова навакольнага асяроддзя», «будаўніцтва», «лясная гаспадарка і садова-паркавае будаўніцтва», «забеспячэнне якасці» і «мастацтва музычнае».

Цяпер на вакантныя месцы на іх могуць прэтэндаваць абітурыенты, якія набралі ад 5 балаў (уключна) па расійскай ці беларускай мове; ад 10 балаў (уключна) — па матэматыцы, фізіцы, хіміі і біялогіі; ад 15 балаў (уключна) — па гісторыі Беларусі, сусветнай гісторыі найноўшага часу, грамадазнаўстве, геаграфіі, замежных мовах.

### Дэвальвацыя на маршы

Пры канцы існавання СССР ВНУ заканчвалі прыкладна 20% грамадзян. Цяпер жа вучацца прыкладна 50%.

Адбылася дэвальвацыя вышэйшай школы. Калі раней ў ВНУ ішлі толькі самыя разумныя, то цяпер лезуць «і жук, і жаба, і кракадзіл», як казаў некалі Лукашэнка. І дыпломы цяпер называюць «корачкамі». Іх атрымліваюць, каб, напрыклад, не ісці ў войска (яшчэ раз да пытання аб прэстыжы службы), пераехаць у сталіцу ці паспрабаваць падчас навучання наогул з'ехаць за мяжу.

Як паведамляе прэс-служба Міністэрства адукацыі, на вакантныя месцы на вайсковыя спецыяльнасці дакументы будуць прымацца ад 21 да 25 ліпеня, сферы культуры — 27—28 ліпеня, на ўсе астатнія — ад 23 да 28 ліпеня.

Гэта ўсё вельмі і вельмі трывожна. Грамадства не можа складацца з адных праграмістаў, дыпламатаў, дактароў і хакеістаў. Афіцэры, педагогі, металургі таксама павінны быць граматныя. Інакш і снарады, і жыццё могуць пачаць ляцець не туды.

**Зміцер Міцкевіч**

## Топ-5 праблем беларускіх універсітэтаў

### 1. Нізкі прэстыж прафесіі выкладчыка

Праца выкладчыкаў, як і іншых бюджэтнікаў, у Беларусі аплочваецца паводле астаткавага прынцыпу. Суадносна, паводле астаткавага прынцыпу абітурыенты выбіраюць педагагічныя спецыяльнасці. Адсюль хранічны недабор і нізкі прахадны бал. У выніку маем выпускнікоў са слабым узроўнем ведаў і, як следства, якасць выкладання, якая падае з года ў год. Замкнёнае кола.

### 2. Нямэтавае выкарыстанне навучальных гадзін

Усім добра вядомая практыка: замест тых ці іншых заняткаў студэнты (часта на чале з выкладчыкам) у добраахвотна-прымусовым парадку ідуць стварaць масавасць на хакей/парад/канцэрт, удзельнічаюць у суботніках і іншых дзяржаўных мерапрыемствах. Ці паспее выкладчык вычытаць праграму, мала каго хвалюе.

### 3. Дыплом «за заслугі перад ВНУ»

У кожным універсітэце ёсць студэнты, якіх практычна не бывае на парах. Але калі выкладчык аб'ектыўна не мае за што паставіць такому студэнту нават чацвёрку, яго выклікаюць у адміністрацыю і шматзначна кажуць: «Ну, вы ж разумееце...» Маўляў, яны абараняюць гонар універа, бо ўдзельнічаюць у спаборніцтвах і конкурсах прыгажосці, і з-за гэтага не бываюць на парах.

### 4. Платнікі, якія прыйшлі па «корачку»

Часты выпадак: поўная адсутнасць матывацыі да навучання і ведаў у галаве. Але ж ён плаціць грошы!.. І атрымлівае роўна такі самы дыплом, як яго аднагрупнік, які сумленна ўсё вучыў і здаваў.

### 5. Праграмы навучання

Альбо яны маральна састарэлыя, і студэнты вывучаюць прадмет па падручніках 50-гадовай даўніны, альбо настолькі новыя, што матэрыялаў па іх няма ў прынцыпе. За 3 гады выкладання профільнага прадмета ў мяне не было ніводнага падручніка, якім можна было б скарыстацца пры падрыхтоўцы да заняткаў — толькі напрацоўкі калег і свае ўласныя. Студэнты ў той час выдаткоўваюць вялізныя сумы на раздрукоўкі. Гэта, вядома, тычыцца не ўсіх прадметаў і не ўсіх ВНУ, але з'ява ўсё ж распаўсюджаная.

**Юлія Бальцэвіч, былая выкладчыца**

## А як у іх?

У гэткай сітуацыі варта прыгадаць ЗША, дзе людзі з вышэйшай адукацыяй складаюць 42% насельніцтва. Не будзем доўга распісваць розніцу ў падыходах да канцэпцыі ВНУ ўвогуле, а проста прывядзём факты з вуснаў знакамітых беларускіх студэнтаў амерыканскіх навучальных устаноў.

Напрыклад, гулец зборнай Беларусі па хакеі Кірыл Гатавец так апісвае навучанне ў Корнэльскім універсітэце, дзе ён выступаў за каманду ўніверсітэта ў студэнцкай лізе.

«З вучобай там вельмі строга. Прапускаць заняткі наогул нельга, а то могуць ад трэніровак і нават гульняў адхіліць. Прапусціць нешта можна толькі з дазволу выкладчыкаў або трэнераў. Калі трэнер давядаецца аб прагулах, могуць быць праблемы. Таму даводзіцца вучыцца добра».

А вось што кажа беларускі баскетбаліст Мікіта Мешчаракоў пра свае будні ў каледжы Уэйк-Форэст у Паўночнай Караліне:

«Звычайны дзень пачынаецца а 8-й раніцы. Снедаеш, ідзеш на заняткі. Звычайна расклад скампанаваны, каб можна было пасярод дня схадзіць у «качалку». Там бавіш каля гадзіны. Затым вяртаешся на вучобу. Дзесьці да чатырох гадзін «грызеш граніт навукі», а потым — на трэніроўку. Часу на адпачынак практычна няма. Дадому вяртаешся а 8-й вечара. Потым робіш дамашнюю работу. Калі аб 11-й ляжаш у ложак, можаш назваць сябе шчаслівчыкам. Калі студэнт не паспявае, яму прызначаюць дадатковыя заняткі з рэпетытарам. Трэнер за вучобай таксама пільна назірае, сочыць, каб не было правалаў ні па адным прадмеце. Вучыцца цяжка, але для студэнтаў створаны ўсе ўмовы».



Хакеіст Кірыл Гатавец вучыцца ў ЗША.

**ЗМ**

# Юлія Чарняўская: Адлічваць трэба масава!

Нізкая прахадная планка ў ВНУ турбуе і выкладчыкаў. Культуролаг, прафесарка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў са шматгадовым досведам педагагічнай дзейнасці Юлія Чарняўская называе прыёмную кампанію ў ВНУ **«ліквідацыяй пісьменнасці»**. Яна расказала «НН», як змяніліся студэнты з 1990-х і чаму вышэйшая адукацыя мусіць быць элітарнай.





Гэтыя маладыя людзі свае дыпломы ўжо атрымалі.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наша Ніва»: Ці маюць людзі з трыма баламі са ста па тэставанні права паступаць у ВНУ?**

**Юлія Чарняўская:** Я лічу, што вышэйшая адукацыя павінная быць вышэйшай. Наша праблема ў тым, што мы чамусьці вырашылі, што атрымаць вышэйшую адукацыю мае права кожны.

Сёння адной з сусветных тэндэнцый вышэйшай адукацыі ёсць пачатак дзялення на масавыя ВНУ, якія проста паглыбляюць школьную адукацыю, і элітарныя. І тыя, і тыя маюць права на існаванне. Адбор у ВНУ розных эшалонаў таксама мусіць быць розным па сваёй жорсткасці. Аднак браць у ВНУ людзей, якія, да ўвядзення настолькі нізкага мінімальнага бала, маглі б навучацца толькі ў ПТВ, — гэта ўдар па прэстыжы і рэпутацыі ўніверсітэта.

Сарбона, напрыклад, прымае ўсіх. Аднак у Сарбоне ёсць жорсткі адбор пасля. Ты адвучыўся семестр — і калі вучышся дрэнна, цябе можна лёгка адлічыць. І адлічваюць там шмат. Ад паловы да трох чвэрцяў! У нас жа праблема ў тым, што адлічваюць мала. І я не ведаю, як вырашыць гэтую праблему. Калісьці Лукашэнка казаў, што краіне патрэбна больш працоўных рук. І гэта той выпадак, калі я цалкам згодна з ім. Можна рабіць ССНУ з ільготамі для паступлення ў ВНУ. Аднак запаўняць ВНУ тымі, кім іх запаўняюць цяпер, нельга.

**«НН»: Ці ёсць негалосная забарона выключаць з ВНУ студэнтаў-платнікаў?**

**ЮЧ:** Вядома, цяпер, калі ВНУ мусяць усё больш шукаць фінансавання самастойна, платнік з'яўляецца чалавекам, які нясе ўніверсітэту грошы. Таму, з аднаго боку, адлічваць іх, вядома, «нерэнтабельна». З іншага боку, калі я буду спрыяць адлічэнню непрацаздольнага студэнта, мне нічога за гэта не будзе. Мне не зробяць вымову, не пазбавяць прэміі. Вялікую ролю тут адыгрывае савецкі стэрэатып, што ў няўдачах студэнта вінаваты настаўнік. Таму гэта не студэнт дрэнна вучыцца — гэта настаўнік не зацікавіў, не матываваў.

**«НН»: Як змяніліся студэнты ВНУ за апошнія гады?**

**ЮЧ:** Самыя цікавыя студэнты ў мяне былі ў 90-я гады, гэта быў мой «залаты век». Студэнты тады былі сацыяльна матываваныя, ідэйна матываваныя. Да таго ж у тых студэнтаў быў велізарны піетэт да ведаў.

Цяперашнюю сітуацыю я магу апісаць словамі расійскага рэжысёра Камы Гінкаса: «Ім не сорамна не ведаць». Студэнтам растлумачылі, што ўсё ведаць немагчыма, што яны не наватары і не Эйнштэйны і што ім трэба арыентавацца ў сваёй вузкай галіне. Уменне замаўляць білеты на самалёт стаіць цяпер на адной прыступцы з веданнем твораў класікаў культуры.

Да таго ж у сённяшніх навучэнцаў значна пагоршала памяць, бо ёсць «Гугл», дзе захоўваецца інфармацыя. Сучасныя студэнты менш усядлівыя, ім цяжка вытрымаць пару, а выкладчыку цяжка вытрымаць такіх вучняў. Разам з тым студэнты сёння весялейшыя і менш «загружаныя».

**«НН»: Чаму самі ВНУ прымаюць абітурыентаў з такім узроўнем ведаў? Зразумела, што з іх наўрад ці атрымаюцца добрыя спецыялісты.**

**ЮЧ:** Здаецца, менш за патрэбнае дбаюць аб прэстыжы вышэйшай адукацыі ў краіне. Вышэйшая адукацыя ўспрымаецца як базавая, а не выключная. Але я не магу сказаць, што тут вінаватыя толькі чыноўнікі. На ўсёй постсавецкай прасторы вышэйшая адукацыя пачала ўспрымацца насельніцтвам як абсалютная неабходнасць. Раней гэтага не было.

У гэтым вялікая бяда для выкладчыка. Калі ты стаіш у групе, дзе шэраг людзей маюць па 80—90 балаў за прадмет, а шэраг — 3, ты не ведаеш, на якім узроўні выкладаць. Калі падрабязна «разжоўваць», людзям з высокім балам будзе нецікава і нудна. Калі арыентавацца на самых разумных, астатнія нічога не зразумеюць.

**«НН»: Як выправіць становішча?**

**ЮЧ:** Трэба заахвочваць студэнтаў вучыцца. Для гэтага выдатна падыходзіць матэрыяльны стымул. Напрыклад, калі за поспехі ў навучанні скасоўваецца частка платы за навучанне. Раней такія інструменты шырока прымяняліся. Цяпер гэта робіцца радзей.

На нейкія спецыяльнасці трэба ўводзіць элітарны набор і выпускнікам гэтых спецыяльнасцяў гарантаваць працаўладкаванне на добрых месцах. Яшчэ ў 1990-я я прапанавала такім чынам павысіць рэйтынг беларускай філалогіі ў БДУ. Я прапанавала стварыць элітарныя групы з моцных студэнтаў, якіх не маглі б заслаць у глухую вёску па размеркаванні. Аднак узамен яны мусілі б адпрацаваць у найлепшых мінскіх гімназіях на вельмі добрых умовах. Аднак на маю ініцыятыву круцілі пальцам ля скроні.

Трэба аналізаваць дэфіцыт працоўных месцаў і прапанаваць больш выгадныя ўмовы навучання па гэтых спецыяльнасцях. Ну і, вядома, трэба, каб ВНУ пазбаўляліся ад «баласту». То бок «гнаць» студэнтаў, якія не цягнуць праграму.

**Гутарыў Кірыла Хілько**

## Набраць тры балы са ста на ЦТ? «Наша Ніва» зладзіла эксперымент

Летась мы адправілі на ЦТ трох рэпарцёраў, якія павінны былі здаваць тэсты без падрыхтоўкі, ставіць птушачкі практычна наўздагад.

Для эксперыменту былі выбраныя тры «тройкі» іспытаў, якія даюць найшырэйшыя магчымасці для паступлення. Здаўшы мову, матэматыку і грамадазнаўства, можна падаваць дакументы на прававедства ці, напрыклад, у Акадэмію МУС (хоць туды неабходна здаць яшчэ і іспыт па фізпадрыхтоўцы).

Сертыфікаты па матэматыцы, фізіцы і мове адкрываюць дарогу для паступлення на безліч тэхнічных спецыяльнасцяў.

Трэці папулярны кірунак — філалогія і лінгвістыка — патрабуе здачы іспыту па беларускай ці рускай, замежнай мовах і гісторыі Беларусі.

У выніку наш абітурыент-«юрыст» набраў 40 балаў па беларускай мове, 39 — па грамадазнаўстве і 11 — па матэматыцы.

«Лінгвіст» атрымаў 16 па англійскай, 10 — па расійскай і 32 — па гісторыі Беларусі.

«Матэматык» здаў беларускую на 42, матэматыку — на 10 і фізіку — на 11.

У мінулым годзе ў звычайныя ВНУ ніхто з журналістаў «НН» не «паступіў»: мінімальны прахадны бал складаў 10—20 пунктаў.

Але ў 2014 годзе з такімі вынікамі можна смела несці дакументы ў прыёмную камісію, каб стаць афіцэрам або педагогам.

**КХ**

## Вучоба дык вучоба!

У што ператварыліся беларускія ўніверсітэты? 4-курсніца аднаго дзяржаўнага мінскага ВНУ расказала, **за што** студэнты атрымліваюць залікі.

«Стала нормай, калі студэнтаў здымаюць з лекцый дзеля паходу на канцэрт, прэзідэнцкі хакейны турнір ці фізкультурную алімпіяду. Каб стварыць «эфект масавасці». Калі студэнт не ўдзельнічае ў гэтым, яго пазбаўляюць рэйтынгавых балаў, а яны ўплываюць на атрыманне зніжкі на вучобу ці месца ў інтэрнаце.

Веды ведамі, але калі ты не ўдзельнічаеш у грамадскім жыцці ўніверсітэта, атрымаць зніжку проста немагчыма. Маеш пропускі? Ідзі — і табе запішуць адпрацоўку.

Прынцыповыя пытаюцца: «Чаму я павінен ісці на гэты канцэрт?» Тыповы адказ: «Ты ведаў, куды паступаў. Ты павінен падтрымаць свой універсітэт. Калі табе не падабаецца, можаш забраць дакументы. Дзеля аднаго цябе выкладчык заставацца не будзе».

Плюс пагрозы праверкі пропускаў: а ў каго са студэнтаў іх няма! «Ты ж не хочаш быць адлічаным?» Ніхто не хоча, і таму ўсе ідуць».

**КХ**

# Навукоўцы навучыліся чытаць думкі

Навука пакуль не ў стане вылечыць пашкоджаны спінны мозг і вярнуць магчымасць рухацца паралізаваным. Аднак амерыканскія даследчыкі з Векслераўскага медыцынскага цэнтра Універсітэта Агаё і навуковага цэнтра «Батэль» вырашылі абысці перашкоду, якую не ўдаецца прайсці наўпрост.

Створаная імі тэхналогія «нейрамост» дазваляе перадаваць сігналы ад галаўнога мозга на паралізаваную канечнасць. Першым чалавекам, на якім апрабавалі «нейрамост», стаў 23-гадовы Іэн Буркхарт, паралізаваны ніжэй за шыю ў выніку няшчаснага выпадку.

Для Іэна ў чэрап быў ужыўлены мікрачып, які распазнае нейрасігналы ад рухальных зонаў кары галаўнога мозга. Камп'ютар з дапамогай адмысловага алгарытма расшыфроўвае атрыманую ад чыпа інфармацыю і праз манжэту з электродамі кіруе мышцамі.



Падчас дэманстрацыі тэхналогіі Буркхарт змог варушыць пальцамі і перадплеччам, а таксама здзейсніў спробу трымаць у руцэ лыжку.

Буркхарт стаў першым чалавекам, які змог кантраляваць паралізаваную канцавіну сілай уласных думак.

Кірыла Хілько

# У Баранавічах зафарбуюць графіці з князем Кейстутам

**Замест узгодненай сцяны** інтэрната УА «Баранавіцкі тэхналагічны каледж» Белкаапсаюза, графіцісты памылкова размалявалі будынак сталовай.



Як аказалася, будынак сталовай знаходзіцца на рамонце. Па праекце рэканструкцыі графіці на сцяне не прадугледжана. У сувязі з гэтым кіраўніцтва каледжа вырашыла сцяну зафарбаваць. Магчыма, праз два тыдні графіці з Кейстутам не будзе.

«Хлопцы сказалі, што пераблыталі сцены, — тлумачыць дырэктарка каледжа Таццяна Грабоўская. — Мы былі б радыя бачыць гэтае графіці на сцяне нашага інтэрната, дзе яно і было запланавана. Будынак сталовай знаходзіцца на рэканструкцыі і, згодна з праектам, павінен быць вытрыманы ў пэўным каляровым стылі. Каб пакінуць графіці, давядзецца ўносіць змены ў праект, а гэта каштуе немалых грошай.

Дырэктарка каледжа паведаміла, што графіці не будуць чапаць да пачатку прац па рэканструкцыі фасада.

«Intex-press»

# Амерыканец спаліў дом пры спробе забіць павука

Мужчына пабачыў членістаногае ў пральні і вырашыў знішчыць яго. Для гэтага гаспадар дома ўзяў аэразольны балон з фарбай, падпаліў струмень запальнічкай і накіраваў яго на насякомае, перадае партал Komonews.

На жаль, полымя перакінулася на рэчы ў пакоі, а мужчына не здолеў патушыць пажар самастойна.

Пажарныя змаглі захаваць дом, аднак прычыненая шкода ацэньваецца ў 60 тысячаў даляраў.

Падобны выпадак адбыўся раней у Канзасе, дзе 34-гадовая жанчына спаліла свой двухпавярховы дом, калі намагалася знішчыць павука з дапамогай аэразолю і запалак.

КХ





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Бацькоўская лодка

Прачытаў артыкул Віктара Марціновіча «Беларусь удалася» («НН» №26). Адной з наяўных прыкметаў гэтай гістарычнай удачы папулярны аўтар лічыць білборд, які рэкламуе агратурызм. «На білбордзе, — піша Віктар Марціновіч, — выяўленыя лодка і возера...»

Я не бачыў гэтую натхняльную выяву. Але ўпэўнены, што лодка на ёй з тых прыгажунь, што імкліва рэжуць быстрыню і лёгка гойдаюцца на хвалях. Але на плытках. Бо стромкая хваля перакульвае такую лодку ў момант. Што праўда, яе зусім не цяжка выцягнуць на бераг ці спіхнуць з берага ў ваду...

Лодку, што належыць бацьку Чэсіка і Мечыка, аднаму спіхнуць у ваду немагчыма. Збітая з тоўстых, глыбока прасмаленых дошак, яна на палову сваёй даўжыні ўчэпіста трымаецца за вільготны пясок, на які, ціха хлюпаючы, раз-пораз набягае чыстая, як сляза, хваля. Але нават вялікая хваля не гойдае лодку, толькі бездапаможна б'ецца ў карму, кідаючы праз яе свае рэшткі. Не дзіва, бо пласкадонка прызначана для руплівай рыбацкай працы, не для прагулянак. Іншых у нарачанскіх рыбакоў няма. Праўда, бацька братоў не рыбак, мо толькі калісьці. А ў 50-х — начальнік над станцыяй «Купа» — канцавой ці першай, як адкуль лічыць, на вузкакалейцы, што праз лясы ды азёры вядзе аж да Лынтупаў...

Якая то асалода — ухапіцца за медныя, нашараваныя да сонечнага бляску парэнчы, падняцца ў адзін з двух вагончыкаў, уціснуцца паміж вяскоўцамі, што пазбіраліся ехаць па розных справах, і нецярпліва чакаць, калі пачуецца кароткі вясёлы гудок і, чмыхаючы парай, паравоз пачне круціць па рэйках чырвоначорныя колы!

«Здравствуй, моя Купа, Купа дорогая! Звонкая кукушка-паровоз...» Гэта Аркадзь Куляшоў жартуе. На матыў «Муркі» чамусьці...

Замест Купы сёння — «курортны пасёлак Нарач», замест «кукушкі-паравоза» — нейкая размаляваная падробка, што чадзіць смуродам па асфальце, замест вузкакалейкі — зарослы быллём колішні насып, замест Чэсікаў і Мечыкаў — спрэс «муркі». Калі, так бы мовіць, вобразна лічыць «муркамі» багаценькіх расейцаў, што за бясцань скупляюць па ўсёй Нарачы і наўкол вясковую нерухомасць...

Але дзе ж сёння Чэсік і Мечык? Толькі ў памяці.

Чэсік — старэйшы, Мечык — малодшы. Абодва чарнявыя, хударлявыя, нервовыя ў руках. Абодва ад пачатку знаёмства ставяцца да мяне варожа, бы да чужынца. Мо і сапраўды гарадскі хлопчык успрымаецца як чужынец? Засталіся ў Мінску Воўка, Віцька, Генка... А тут Янак, Стасік, Тадзік, Валюсь... З усімі пасябраваліся

## На касу! Веславаць! Веславаць я ўжо ўмеў...



ці не адразу. А з Чэсікам і Мечыкам — аніякага сяброўства. Толькі нейкі пагрозлівы погляд спадылба. Погляд, які, верагодна, нараджаецца ад заўжды панурага бацькі.

Гэта сёння я разумею, што за той панурасцю хаваўся невядомы мне цяжкі лёс. Мо нават такі, у якім былі вінаватыя ўсе гэтыя людзі, што панаехалі з Мінска. Ну, не менавіта гэтыя, але адтуль...

Разумець гэта ў мае 12 гадоў не выпадала. І няёмка, крыўдна і нават страшна, калі на маё ныццё даць лодку «пакатацца» Чэсікаў і Мечыкаў бацька адказвае не проста адмовай, а нейкай грэблівай забаронай звяртацца да яго па лодку калі-небудзь яшчэ...

Я не ведаю, чаму браты раптам дагналі мяне.

«Слухай, бацька хутка з'едзе ў Лынтупы. Хадзем з намі на касу, «на дарожку», на шчупака? Будзеш веславаць...»

На касу! Веславаць! Веславаць я ўжо ўмеў.

...Праз гадзіну, азіраючыся, адчаплялі лодку ад ланцуга, напята сцягвалі ў ваду, пясок скроб па дне... Лёгкі штуршок — і вось ужо лодка ўпэўнена слізгоча па ціхай вадзе да «сіняга» — так купаўцы пазначаюць мяжу, за якой пачынаецца празрыстая, аж да дна, глыбіня. Вяслуецца лёгка, з уздымам, хаця цяжкія вёслы нехлямяжа боўтаюцца ў расхістаных качотах. Чэсікавы і Мечыкавы блёсны, самаробныя, з бліскучай, абцяжаранай волавам бляшанкі, вяртлява круцяцца далёка за лодкай, спакушаючы неабачлівага шчупака. Але да шчупака справа не даходзіць.

Справа даходзіць да чорнай, падпаленай па краях знікаючым сонцам хмары. Праз якую хвіліну хмара ўжо на ўсё неба, і яно абрынулася такой залевай, што знікаюць берагі, знікае каса, да якой амаль даплылі, знікае Чэсік на карме, нават Мечык, што сядзіць бліжэй да мяне, амаль знікае з вачэй... Мяне ахоплівае нейкая нетлумачальная адважнасць, я нават не ўсведамляю, што хутка патонем. Бо што з таго, што Мечык пачынае ліхаманкава вычэрпваць ваду каўшом, Чэсік — склаўшы далоні, а я вяслую што ёсць падлеткавай моцы ў нікуды, наўпрост паставіўшы лодку кармой да стромкай, звыш за метр, напэўна, ці нават больш, хвалі?!

І мы патанулі. Лодка паціху сышла пад ваду. Выпрасталіся. Мечыку — па грудзі...

Рагочам, абдымаемся, пырскаемся вадой, хаця мокрыя ўшчэнт. І не зважаем на тое, што возера раптам сцішылася, хмара расхінулася, пусціла сонечны прамень, што асвяціў хаты на беразе. Так, Чараўкі. Дзе каса, а дзе Чараўкі! Праз усё возера ратавалі нас бацькоўская лодка і нарачанская хваля.

З таго часу не пакідае мяне пачуццё, што было народжана ва ўлонні Нарачы — быццам сам у ім нарадзіўся.

«Беларусь удалася», — сцвярджае Віктар Марціновіч. Так, удалася. На білбордах.

Але ці ж Беларусь?!

*kamerton_41@mail.ru*

# Уцекачы з Украіны знайшлі прытулак у сям'і са Жлобіна

**Чулая сям'я Крапіцкіх** арганізавала прытулак для ўцекачоў з Данбаса.



**Крапіцкія — шматдзетная сям'я. У іх два сыны і дзве дачкі. Але іх вялікіх сэрцаў хапае і на чужое гора.**

У вёску Касакоўка прыехалі тры сям'і. Пра Крапіцкіх яны даведаліся праз сацыяльную сетку «Аднакласнікі». Усе гэтыя людзі баяцца заставацца на радзіме, а Расія для іх застаецца краінай чужой і незразумелай. Таму для пераезду яны абралі Беларусь, якая для іх ёсць выспай стабільнасці і дабрабыту.

На вакзале мяне з фатографам сустракае Алег — светлавалосы хлопец. Ён адразу павёў нас да сябе дамоў. Жывуць Крапіцкія ў горадзе, а ў Касакоўцы яны арандуюць былую школу. Абвестка ў сацыяльных сетках аб'яднала вакол сям'і сотні лю-дзей з усёй Беларусі. Дапамагаюць нават таксісты і ўладальнікі крамаў.

Дзверы ў кватэру адчыняе Надзея — прыгожая жанчына гадоў трыццаці. На руках у яе немаўля. Да нас падбягаюць сабакі хаскі, а за імі — трое дзяцей. У Крапіцкіх чацвёра малых: дзве дзяўчынкі і два хлопцы. Старэйшай 8 гадкоў, а малодшай — 7 месяцаў. Акрамя гэтага, у іх тры сабакі і яшчэ кот, які ўвесь час хаваецца за канапай. Усе яны змяшчаюцца ў трохпакаёўцы.

Кватэра знаходзіцца ў стадыі рамонту. Добра ўладкаваная толькі зала. У некаторых месцах няма шпалераў. Мэбля старая, усё сціпла, але гэта не перашка-джае сям'і выглядаць шчаслівай. Алег Крапіцкі працуе прарабам на будоўлі.

Сям'я заўсёды была неабыякавай. Раней апантана дапамагалі сабакам. Для гэтага яны нават пабудавалі вальеры.

На кухні ў Крапіцкіх душна, кіпіць боршч і варыва для сабак. Тут жа сядзяць Марыя і Аляксей з сынам. Яны з горада Макееўка. Яны сцвярджаюць, што вырашылі пакінуць свой дом, калі па суседніх кватэрах пачалі хадзіць людзі без апазнавальных знакаў. «Пад пагрозай жыцця забіраюць мужчын і адсылаюць у нейкія лагеры ў Заходняй Украіне», — расказваюць уцекачы.

Вядома, што Макееўку ад пачатку кантралявалі баевікі, таму



**Гэты мужчына з Луганска «хацеў ваяваць за апалчэнцаў», але з'ехаў у Беларусь.**



**Кожны дзень людзі нешта прывозяць. Дапамагаюць нават мясцовыя прадуктовыя крамы.**

стуль не маглі высылаць людзей у Заходнюю Украіну. Дый Украіна ўвогуле не мабілізоўвала ў Данбасе: ясна, што на мясцовых нельга было пакласціся. Значыць, гэтыя людзі хлусяць мне. Наколькі? Можа, хадзілі па кватэрах акурат «апалчэнцы»? І чаму хлусяць? Найхутчэй што проста, каб апраўдаць сваё ўцякацтва. Але хто ведае. Хто яны? Невядома. І вось такіх уцекачоў чулыя Крапіцкія прымаюць у сваю кватэру.

Аляксей кажа, па адукацыі ён інжынер-механік, а Марыя працавала начальнікам аддзелу ў страхавой фірме. А сёння яны кінулі ўсё і шукаюць прытулку ў іншай краіне.

Праз гадзіну па нас прыехала таксі, і мы накіроўваемся ў Касакоўку. Пакуль едзем, гутарым з Надзеяй.

«Мне крыўдна, што гэтым людзям не даюць статус уцекачоў. У законе чорным па белым напісана, што статус уцекачоў можа быць нададзены ўсім, хто адчувае небяспеку для свайго жыцця, — кажа жанчына. — Каб гэтыя людзі маглі тут спакойна знаходзіцца, ім трэба знайсці працу. Дзякуй старшыні мясцовага таварыства, які ўладкаваў на працу ўжо адну сям'ю ў калгас, і хутка ім павінны выдзеліць жыллё. Ёсць ужо і іншыя прапановы з суседніх калгасаў».

А як мясцовыя ўлады рэагуюць на ініцыятыву?

«Эміграцыйныя службы зацікавіліся, бо яны думалі, што мы тут банду невядомых уцекачоў прытулілі, але потым зразумелі, што мы нічога кепскага не робім. Ім жа па галаве ўжо з Мінска настукалі. Кажуць толькі: «Мы ж твар краіны, а вы людзей у такіх умовах хочаце размяшчаць!» Я ж і кажу ім: «Дык дапамажыце!» Людзі мне пішуць і просяць засяліць іх куды заўгодна, хоць проста ў намёт. Як я магу адмовіць?

Прыехалі на месца праз хвілін дваццаць. Сама вёска знаходзіцца ў вельмі маляўнічых мясцінах, падворкаў у ёй каля двухсот. Будынак схаваны ў зеляніне. Ён быў калісьці школай, але даўно выведзены з эксплуатацыі. Умовы вясковыя: вада ёсць у адным месцы, а туалет на вуліцы. У школе грунтоўна зроблены толькі 2 пакоі, астатнія — у стадыі рамонту. Старшыня мясцовага таварыства прызначыў для аховы будынка вартаўніка — каларытнага дзеда.

«Мне прапаноўвалі на сцяне Лукашэнку намаляваць, але я сказала, што такі патрыятызм мы зможам праявіць хіба ў надпісе «Квітней, Беларусь», – жартуе Надзя.

– Дык, можа, Аляксандр Рыгоравіч хутка сам даведаецца пра вас і завітае.

— Я б гэтага хацела. Вельмі паважаю нашага прэзідэнта.

Мы перамяшчаемся ў галоўную залу будынка. Тут далучаемся да кола журналістаў і іншай сям'і, якая прыехала з дзецьмі з-пад Луганска. Людзі прыязджаюць абсалютна розныя, хтосьці выступае за адзіную Украіну, а хтосьці шчыра падтрымлівае сепаратыстаў у змаганні за далучанне да Расіі. Бацька сям'і з-пад Луганска збіраўся ісці ў апалчэнне. Па яго-ных словах, мужчынаў на мяжы з цягнікоў здымаюць. Усе-агульная мабілізацыя робіць усіх мужчын ваеннаабавязанымі, і ты мусіш абараняць краіну, інакш ты дэзерцір.

Я запыталася ў сям'і Крапіцкіх, чаму яны ўсё ж такі вырашылі дапамагаць гэтым людзям. На што яны без ваганняў адказалі: «Калі ідзе вайна — усе мы ахвяры. І няма апраўданняў ніводнаму з бакоў, калі людзі вымушаны цярпець. Калі мы адчуваем у сабе сілы дапамагчы іншым, мы павінны дапамагаць».

**Вольга Гарапучык,**
**Жлобін — Мінск.**
**Фота Сяргея Гудзіліна**

# Ратвейлер адкусіў жанчыне руку

Гаспадары на некалькі дзён **пакінулі сабаку без ежы.**

Няшчасны выпадак адбыўся ў вёсцы Мальева Бабруйскага раёна яшчэ 3 ліпеня. «Сабака належаў прыёмнаму сыну жанчыны, які прывёз жывёлу ў вёску. Ратвейлер ужо месяц там пражыў, а потым жанчына кудысьці адышла, замкнуўшы яго ў доме. Відавочцы расказвалі, што сабака некалькі дзён заставаўся без ежы, і калі гаспадыня ўвайшла ў дом, ён кінуўся на яе і адкусіў руку вышэй за локаць. Пацярпелую даставілі ў бальніцу, аднак рэанімаваць канечнасць не ўдалося.

Ратвейлера забілі. Вынікі даследавання адносна шаленства пакуль не паступілі з лабараторыі ў Магілёве. Як паведамілі ў праваахоўных органах вобласці, крымінальная справа ў дачыненні да гаспадара сабакі не распачыналася.

БелаПАН



## Двое дзяцей упалі з вокнаў праз маскітныя сеткі

Адзін такі выпадак зарэгістраваны ў Гомелі, а другі — у пасёлку Чонкі Гомельскага раёна.

У абласным цэнтры двухгадовы малы застаўся з бабуляй і дзядулем, калі мама пайшла ў краму. Бабуля пакарміла дзіця і пайшла вынесці посуд. А дзіця тым часам ускараскалася на падваконне і абаперлася на маскітную сетку адчыненага акна на 3-м паверсе. Абаперся на сетку і паваліўся. Цяпер яго спрабуюць ўратаваць у рэанімацыі.

А ў пасёлку Чонкі з другога паверха зваліліся шасцігадовая дзяўчынка. Цяжару яе цела таксама не вытрымала маскітная сетка. З траўмамі дзяўчынка дастаўлена ў бальніцу.

У Віцебску ж з 6-га паверха зваліўся 45-гадовы мужчына. Да зямлі ён не даляцеў адзін паверх — прызямліўся на дах крамы. З пераломамі шпіталізаваны.

Кастусь Матушыч

## 10 гадоў калоніі за аварыю на дарозе

У Рэчыцкім судзе 22 ліпеня завяршылася слуханне крымінальнай справы па трагічнай аварыі, у якой загінулі трое.

Суд прызнаў 28-гадовага кіроўцу вінаватым у парушэнні правілаў дарожнага руху ў стане алкагольнага ап'янення, што пацягнула па неасцярожнасці смерць. Ён таксама прызнаны вінаватым у наўмысным пакіданні пацярпелых ў небяспецы. Яго адправілі за краты на 10 гадоў. У дадатак давядзецца выплаціць больш за мільярд рублёў кампенсацыі сем'ям ахвяраў.

Аварыя ў Рэчыцы здарылася ў ноч на 20 сакавіка. «Крайслер-Пацыфік» выехаў на аўтобусны прыпынак. Двое мужчын загінулі адразу, трэці — у бальніцы. Яшчэ два хлопцы атрымалі сур'ёзныя траўмы.

Кіроўца выпіваў у той вечар. Але прапанаваў сам развезці сяброў па дамах. Ніхто не адмовіўся. У выніку хлопец перавысіў хуткасць і выскачыў на сустрэчку. Каб не сутыкнуцца з іншым аўто, вільнуў убок. І выскачыў на прыпынак.

Пасажыры, якія ехалі ў «Крайслеры», праходзілі па справе сведкамі.

СМ

# Зняволены памёр на руках у супрацоўнікаў ізалятара

Два гады таму ў ізалятары часовага ўтрымання ў Светлагорску сканаў 33-гадовы **Аляксандр Акуліч.**

### 18 слядоў

Мужчына не быў цацай — выпіваў. Так моцна, што маці хацела адправіць яго ў лячэбна-працоўны прафілакторый. Участковы параіў выклікаць міліцыю. З гэтага ўсё і закруцілася.

22 мая 2012 Аляксандра Акуліча забралі ў пастарунак. Суд адправіў яго на пяцісуткавы арышт за паўторнае цягам года з'яўленне на людзях нецвярозым. А раніцай 26 мая Валянціне Акуліч паведамілі пра смерць сына. Калі цела привезлі дадому, родныя жахнуліся — яно было ў сіняках. Тады жанчына сфатаграфавала сына. Два гады яна дабіваецца справядлівасці.

Афіцыйная прычына смерці — алкагольная інтаксікацыя. Бацькі ж лічаць, што Аляксандра збілі да смерці ў ізалятары. І прасілі завесці крымінальную справу. Але следчыя парушэнняў з боку міліцыянтаў не ўбачылі.

Згодна з судмедэкспертызай, на целе Акуліча налічылі 18 слядоў ад удараў. Драпіны на галаве, твары, на руках, нагах, сінякі на спіне. «Усе пералічаныя цялесныя пашкоджанні ўзніклі ад дзеянняў тупых цвёрдых прадметаў незадоўга да смерці (на працягу сутак) і належаць да лёгкіх цялесных пашкоджанняў. Утварэнне ўсяго комплексу цялесных пашкоджанняў пры падзенні на плоскасці выключаецца», — прызнаў факт збіцця эксперт. Але канстатаваў, што ад гэтых траўм не магла наступіць смерць.

### Сродкі стрымлівання

«Акуліч знаходзіўся ў ІЧУ Светлагорскага РАУСа на законных падставах, — заявіла прадстаўнік Следчага камітэта (СК) па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава. — У камеры ў Акуліча пачаў праяўляцца абстынентны сіндром (з'явіліся галюцынацыі, яго паводзіны мелі неадэкватны характар). Таму Акуліча вывелі з камеры».

А калі ён пачаў буяніць, тлумачаць у СК, на яго надзелі наручнікі. Акулічу стала кепска, яму выклікалі «хуткую», але яшчэ да яе прыезду ён сканаў. Па выніках медыцынскіх экспертыз смерць надышла ў выніку хранічнай алкагольнай інтаксікацыі (сіндром залежнасці ад алкаголю), якая ўскладнілася развіццём стану адмены алкаголю з дэлірыем і ацёкам галаўнога мозга. Пашкоджанні, якія былі на целе Акуліча, не знаходзяцца ў прычыннай сувязі з яго смерцю».

Праваабаронца Павел Сапелка ўважліва разбіраўся ў справе смерці Акуліча. «Тым органам, якія разглядаюць скаргі сям'і Акулічаў, трэба зразумець, што ні яго маці, ні праваабаронцы не лічаць, што Акуліч памёр ад таго, што яго білі, — заўважае Сапелка. — Паколькі адміністрацыя ізалятара ведала пра яго захворванне, алкагалізм, то пры з'яўленні прыкметаў абвастрэння гэтага захворвання яны тэрмінова павінны былі яго шпіталізаваць. І няўжо толькі дубінкай трэба супакойваць чалавека, які знаходзіцца ў хваравітым стане?»

Сям'я Акулічаў з праваабаронцамі рыхтуе скаргу ў Вярхоўны суд. Такім чынам яны спрабуюць звярнуць увагу на праблему абыходжання са зняволенымі.

Сяргей Макарэвіч

# Многа шуму — і нічога

Справу **за «Барысаўдрэў»** супраць кіраўніка «Барысаўпраекта» спынілі.

У мінулым годзе многія асобы, звязаныя з мадэрнізацыяй фабрыкі «Барысаўдрэў», трапілі пад следства. Прычынай сталі збоі і парушэнні, дапушчаныя пры будаўніцтве аб'ектаў, безгаспадарчасць.

Тады справы завялі на былых гендырэктара «Будтрэста №21» Мікалая Бусалава і дырэктара прадпрыемства «Інстытут «Барысаўпраект» Аляксандра Місіюка. Супраць Місіюка крымінальную справу нядаўна спынілі.

«Так, справу закрылі — у сувязі з адсутнасцю складу злачынства. Я атрымаў пастанову 16 чэрвеня», — сказаў у размове з «НН» экс-дырэктар.

Цяпер ён працуе на новай пасадзе — намеснік галоўнага інжынера «Барысаўпраекта». У кіруючае крэсла вярнуцца яго зноў не запрасілі. «Разумееце, мне ніхто не прапаноўваў. А калі і прапанавалі б, я не пайшоў. Ва ўказе ж былі два пункты: 1 — звольніць мяне, 2 — завесці крымінальную справу. Крымінальную справу спынілі, а па частцы звальнення рашэнне ніхто не адмяняў. І наўрад ці Мінскі аблвыканкам будзе яго адмяняць».

Пакуль абавязкі дырэктара КУП «Інстытут «Барысаўпраект» выконвае галоўны інжынер прадпрыемства Аляксандр Гламбоцкі. Між іншым, новым кіраўніком «Будтрэста №21» з'яўляецца Аляксандр Пераслаўцаў, якога адправілі туды з пасады старшыні канцэрна «Беллеспаперпрам» пасля той жа паездкі Лукашэнкі ў Барысаў.

Значна пазней, у сакавіку, за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі завялі крымінальную справу і на Уладзіміра Мальцава, гендырэктара «Барысаўдрэва». Да сёння новага кіраўніка там няма. Згодна з сайтам прадпрыемства, в.а. гендырэктара з'яўляецца Андрэй Ягораў.

СМ

## Сціслa

### Пажыццёвае

Вынесены прысуд па справе забойства мінчанкі Таццяны Слонімскай. Яўген Кулік, які прызнаны забойцам, асуджаны да пажыццёвага зняволення (яму пагражаў расстрэл). А яго хаўруснік Мікалай Лотыш адправіцца за краты на 7 гадоў і пройдзе прымусовае лячэнне ад алкагалізму. Яны таксама павінны кампенсаваць сям'і забітай 300 мільёнаў рублёў.

### Айчым гвалтаваў падчарку. Непісьменны

У Гомелі пакінулі без зменаў прысуд айчыму, які з 2008 па 2013 гвалтаваў дачку сваёй жонкі. У 2008 дзяўчынцы было 11 гадоў. Пра здзекі з боку дарослага яна расказала толькі летась — суседзям. Тыя заявілі ў міліцыю. За кратамі мужчына правядзе 14 гадоў. На судзе высветлілася, што ён адсталы, нават не ўмее чытаць.

### Інсульт за рулём

Беларуская група вярталася з адпачынку ў Балгарыі на аўтобусе. Па дарозе ў кіроўцы, балгарына, здарыўся інсульт. Аўтобус з'ехаў у кювет. Ніхто не пацярпеў. Дзеці вярнуліся дадому.

### Улез праз акно і згвалціў

24-гадовы жыхар Брэстчыны адбываў у сталіцы пакаранне на хіміі. Пайшоў у самаволку. Цераз акно кухні залез у чужую кватэру і пад пагрозай забойства згвалтаваў гаспадыню, маці трох дзяцей. Але... забыў там мабільны тэлефон. Вярнуўся па яго — тут яго і прылавілі.

### Размяшчаў порна з 19 гадоў

У Магілёве 23-гадовага хлопца асудзілі за выраб і распаўсюджванне парнаграфіі. Займаўся ён гэтым 4 гады. Зараз хлопцу давядзецца правесці тры гады ў калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

### П'яны мінчук захрас у фантане

Малады чалавек (1988 г.н.) вырашыў ахаладзіцца на спёцы. Палез у фантан. Але нага захрасла ў дэкаратыўных трубах, пракладзеных па дне. Туды, сюды — захраснуў. Давялося выклікаць ратавальнікаў, перакрываць ваду. А потым гідраўлічным інструментам расцісакаць трубы. А скончылася ўсё штрафам.

КМ

Гэта пропіс, па якім дзіця **вучылася пісаць** літары.

# У Беларусі знайшлі трэцюю берасцяную грамату

Побач на вузкай палосцы бярэсты надрапаныя дзіцячыя крамзолі. Яе адшукалі ў Мсціславе. Гэта ўжо другая грамата, адкуль: у 2008 археолагі знайшлі сведчанне купца Сямёна пра куплю пшаніцы, датаванае канцом XII ст. «Мая — ранейшая, — кажа археолаг Ігар Марзалюк, кіраўнік экспедыцыі, якая на тым тыдні адшукала «пропіс». — Гэта пачатак XII стагоддзя». Значыць, знаходка адносіцца да самага першага перыяду існавання Мсціслава, заснаванага смаленскім князем Расціславам і названага ў гонар сына.

«Я лічу, што мы сваім раскопам трапілі на край княскай сядзібы, — кажа Марзалюк. — Адкапалі маставую, рэшткі гаспа-



дарчых будынкаў. Багацце знаходак неверагоднае — фрагменты візантыйскіх бакалаў, упрыгожаных золатам, шыферныя прасліцы, асклепкі посуду з горнага крышталю — на той час гэта лічылася вялікай раскошай. Недалёка ад граматы, дарэчы, мы знайшлі і пісала».

Багаццю знаходак спрыяюць унікальныя прыродныя ўмовы Мсціслаўскага гарадзішча, кажа Марзалюк: «Тут крыніцы, зямля насычаная вадой, таму арганіка выдатна захоўваецца. Уяўляеце: знайшлі нават клад дроваў, пасечаных на чатыры часткі».

Усе берасцяныя граматы былі знойдзеныя на ўсходзе Беларусі: дзве ў Мсціславе, адна — у Віцебску. Ці гэта выпадковасць, ці тэндэнцыя? «Культура берасцяных грамат, як і традыцыя веча, была характэрная для рускай Поўначы, для арэалу рассялення крывічоў — гэта Віцебск, Полацк, Ноўгарад».

Дзе можна пабачыць берасцяную грамату? Яе, як і іншыя знаходкі, пакажуць на Мсціслаўскім фэсце, што пройдзе ў горадзе ў гэтыя выходныя. У перспектыве ж, кажа Марзалюк, у Мсціславе будзе створаны гісторыка-культурны запаведнік.

**Сяргей Мікулевіч**

**In memoriam**

# «Найвялікшая страта для Глыбокага»

16 ліпеня ў 58 гадоў памёр журналіст **Яўген Самсонаў**.

Жах! Калі мне патэлефанавалі, я не паверыў, але падсвядома зразумеў, што такімі словамі не жартуюць.

Яшчэ раніцай мяне пабудзіла ўнучка (позна лёг спаць) і кажа: «Яўген прыехаў!»

— І што ён хоча? — пытаюся.

— Іванавіч, паехалі на рыбалку! — чую голас Яўгена.

— Ай! Яўген, якая рыбалка! Адчапіся! Вуды ў мяне не гатовыя, трэба паплаўкі, кручкі павязаць...

— Дам я табе і вуду, і чарвякоў! Паехалі!

— Не! Чужымі вудамі не лаўлю...

І Яўген з'ехаў. А вечарам пачуў такую жахлівую навіну...

Гэта найвялікшая страта для грамадзянскай супольнасці Глыбокага за ўсе гады яе існавання. Гэта ж колькі матэрыялаў з'явілася ў «Вольным Глыбокім» і на розных сайтах, радыёперадачах, «Белсаце», дзякуючы Яўгену! Хоць ён далёка і не ўсе іх пісаў, але арганізоўваў паездкі ў Германавічы да Ады Райчонак, у Бычкі на радзіму Васіля Быкава.

Пачынаў ён пісаць для «Вольнага Глыбокага» з маленькіх нататак на спартыўную тэматыку. Не былі яны шэдэўрамі — трэба праўду сказаць, — але з кожнага апублікаванага матэрыялу пасля карэктуры Яўген рабіў высновы, «адточваў пяро». Рабіў журналісцкія расследаванні, сустракаўся з людзьмі, нават з цэлымі вёскамі, ехаў туды, дзе яго чакаюць, дзе людзям патрэбная дапамога... Згадаю хаця б вёску Кішы, дзе былі вялікія праблемы з водазабеспячэннем.

Памятаецца, завітаў да мяне археолаг Міхась Чарняўскі з прапановай даследаваць адну тэму, а менавіта аб трох падпольшчыках, якія ў 1960-я хацелі ўзарваць глушылку. Сярод іх быў і студэнт з Глыбокага Віктар Храпавіцкі. У Лаўрынаўскім лесе са снарадаў ён здабываў тол і адвозіў яго ў Мінск. Група вяла падрыхтоўку да тэракта...

Спадар Чарняўскі, які меў дачыненне да выдання часопіса «Veritas», папрасіў мяне даследаваць тэму і напісаць матэрыял. Я пагадзіўся.

З-за сваёй занятасці я так і не дайшоў да даследавання гэтай тэмы, і, як цяпер разумею, ніколі б і не дайшоў. Тэма вымагала шмат часу і шматлікіх паездак.

– Яўген, хочаш праславіцца?– кажу жартам. — Бяры тэму! У мяне рукі не даходзяць...

Яўген узяўся за тэму з вялікім энтузіязмам. Праз колькі часу ў яго ўжо была цэлая тэчка фотаздымкаў, якую перадала сям'я Храпавіцкіх з Шунеўцаў. Потым ён паехаў у Мінск, знайшоў Сяргея Ханжанкова, арганізатара і кіраўніка гэтай падпольнай студэнцкай групы. Запісаў успаміны.

Яўген напісаў выдатны матэрыял — «Як узрывалі глушылку». Яго апублікаваў «глянцавы» бажаўскі часопіс «Абажур». Гэты матэрыял удзельнічаў у конкурсе імя Веранікі Чаркасавай і заняў высокае 3-е месца. Дарэмна я сумняваўся, што Яўген адолее гэтую тэму! Адолеў, і яшчэ як!



Апошнім часам Яўген грунтоўна заняўся відэаздымкамі. Шматкроць ездзіў на розныя семінары і курсы ў Кіеў, Вільню... Рабіў фільмы аб Глыбоччыне. Апошнім яго праектам разам з Леанідам Юрэкам быў дакументальны фільм пра Язэпа Драздовіча.

Эх, Яўгене... У мяне слёзы наварочваюцца... Няма Цябе! А столькі планаў засталося нерэалізаваных, фільмаў, артыкулаў, вандровак...

**Уладзімір Скрабатун, Глыбокае**


НАСТАССЯ ХРАПОВІЧ

**Фотафакт**

**Філосаф Уладзімір Падгол стварыў у вёсцы Каранішыцы Мядзельскага раёна ўнікальны музей. Ён сабраў мноства рэчаў сялянскага побыту, найперш жорнаў і краснаў. Пра сэнс экспазіцыі можа расказаць сам аўтар, калі заспець яго на лецішчы. Бывае ён там звычайна ў выходныя. Відэарэпартаж пра музей глядзіце таксама на nn.by.**

Стась Карпаў.
## Няма граху

Бога няма. А значыць, няма граху.
Прагу ўсім дараваць частку сваіх правінаў
Ты не спатоліш. Поўнасцю ці крыху.
Бога няма. Цяпер да добрых навінаў.
Бога няма.
Пад намі вада салана,
Над ёю сланы. І, седзячы на слане, ты
Упёрся шасцю нагамі і хобатам ад слана
У чарапашы панцыр нашай блакітнай планеты,
Натхнёны глыбінёю яе маршчын,
Невыпадковасцю і прыгажосцю абшараў,
Заблытаны ў геаметрычнасці афрыканскіх айчын,
Нарэзаных, каб запоўніць паверхню шара.
І я сказаў бы: бога свайго малі
Пакінуць землі свае, воды свае і чадаў.
Пустэчы менскай вуліцы і Малі,
Глыбіні душ нашых і глыбіні Чада.
А ты мне сказаў, што ўсё гэта — бог і бог,
І выпрастаў белыя пальцы свае на мапе,
А зараз табе спружына ўпілася ў бок:
І толькі яна рэальна і дзірка ў канапе.
Якая іронія. Як, раскажы, скажы,
Сябе пачуваеш ты, — раскажы, скажы, ну!
У мяккім ложку пад коўдрай — нібы на крыжы
У думах не пра бяссмерце, а пра спружыну.
І з прагай праг сыходзячы пад пліту —
Штодня хутчэй, бязвольнаму ў паскарэнні,
Пакуль не позна ўсё сабраць у каліту.
Наматваць на кулак усе травы і ўсё карэнне,
Сысці не так, не судзімы і не нагі…
Заплюшчы вочы і бач: на шляху пад пліты
У чорнай глебе след ад тваёй нагі —
Глыбокі след. І дажджом да краёў заліты.

Заплюшчы. Снегапад, зорапад, хмарапад
Уздыбяць горад, нібыта зямлю на плузе,
І лягуць, недзе, напрыклад, ля Курапат
Ці недзе, напрыклад, там, у Зялёным Лузе.

**Сцісла**

### «Ляпіс Трубяцкі» зайграе развітальны канцэрт у Вільні — беларусам бясплатныя візы

23 жніўня гурт «Ляпіс Трубяцкі» ў межах развітальнага тура «Клоўна няма — Happy End Tour» дасць канцэрт для беларускай публікі. Выступ адбудзецца ў Вільні на адкрытай пляцоўцы клуба Loftas, разлічанай на 4,5 тысячы гледачоў. Беларусы маюць магчымасць атрымаць бясплатныя візы. Падрабязная інфармацыя на сайце www.shabli.by. Кошт квіткоў: 420 тыс. руб.

### Бахарэвіч прэзентуе новую кнігу

Кніга «Ніякай літасці Альгерду Б.» складаецца з сарака эсэ, напісаных для сайта кампаніі «Будзьма беларусамі!». Эсэ прысвечаныя розным праявам беларускага жыцця. Штотыднёвую калонку на сайце аўтар пачаў весці ўлетку 2013 года, вярнуўшыся з Гамбурга. Прэзентацыя кнігі адбудзецца 24 ліпеня ў кнігарні «Галіяфы» (Менск, вул. Валгаградская, 4А).

### У Мінску з'явіцца музейны квартал

Музейны комплекс павінен аб'яднаць некалькі будынкаў Нацыянальнага мастацкага музея: вул. Кірава, 25, Леніна, 20, Леніна, 22 і К.Маркса, 24 (у нядаўнім мінулым — інтэрнат БДУ). Будынкі будуць звязаныя пераходамі-галерэямі. Дзякуючы гэтаму, значна павышыцца выставачная плошча Мастацкага музея. Будаўнічыя працы пачнуцца ўжо сёлета.

**СМ**

# Як збівалі карэйскі «Боінг»

«У ноч з 31 жніўня на 1 верасня г. г. самалёт нявысветленай прыналежнасці з боку Ціхага акіяна ўвайшоў у паветраную прастору над паўвостравам Камчатка, затым другі раз парушыў паветраную прастору СССР над в.Сахалін. Пры гэтым самалёт ляцеў без аэранавігацыйных агнёў, на запыты не адказваў і на сувязь з радыёдыспетчарскай службай не выходзіў.

Паднятыя насустрач самалёту-парушальніку знішчальнікі СПА спрабавалі дапамагчы вывесці яго на найбліжэйшы аэрадром. Аднак самалёт-парушальнік на сігналы і папярэджанні савецкіх знішчальнікаў не рэагаваў і працягваў палёт у бок Японскага мора».

Такое паведамленне ТАСС (Тэлеграфнага агенцтва Савецкага Саюза) з'явілася ў савецкіх газетах 3 верасня 1983. За ім — падзея, якая прывяла да новага вітка «халоднай вайны», параўнальнага з Карыбскім крызісам. А тады, нагадаем, ледзь не пачалася вайна атамная.



Апошні маршрут борта 230В.

### Накручаныя нервы

Адбылося «жахлівае непаразуменне, памножанае на атмасферу «халоднай вайны», як пісалі пасля.

Напярэдадні, у 1981, прэзідэнтам ЗША быў абраны Рональд Рэйган, які бачыў сваёй гістарычнай місіяй перамагчы «імперыю зла» — Савецкі Саюз. (Выраз «імперыя зла», дарэчы, таксама прыдумаў ён.) Калі пасаду генеральнага сакратара ЦК КПСС заняў Юрый Андропаў, былы кіраўнік савецкага КГБ, савецка-амерыканскія адносіны дасягнулі надзвычайнага напружання. СССР ладзіў ядзерныя выпрабаванні, амерыканская авіяцыя і флот рызыкоўна набліжаліся да савецкіх межаў на Далёкім Усходзе і ладзілі вучэнні ў нейтральных водах.

Пасля таго, як шэсць амерыканскіх штурмавікоў прайшлі на брыючым палёце над Курыламі, СССР выйшаў з перамоваў па абмежаванні колькасці ракет сярэдняй дальнасці ў Еўропе і зладзіў вучэнні «Шчыт-82», якія на Захадзе назвалі «сямігадзіннай ядзернай вайной».

Нервы бакоў былі накручаныя. І здарылася трагедыя.

### Адхіленне аўтапілота

Пасажырскі «Боінг-747-230В» авіякампаніі Korean Air ляцеў з Нью-Ёрка ў Сеул. На борце былі 269 чалавек — 23 члены экіпажа і 246 пасажыраў з розных краін: Паўднёвай Карэі, ЗША (у тым ліку — кангрэсмен Лары Макдональд), Японіі, Тайваня, Філіпінаў.

1 верасня каля 6 раніцы «Боінг» быў збіты савецкім знішчальнікам. Усе, хто быў у ім, загінулі.

Нагодай для атакі на самалёт грамадзянскай авіяцыі стала адхіленне ад курсу. Калі «Боінг» пакідаў тэрыторыю ЗША, яно складала ўсяго 20 кіламетраў на паўночны захад. Экіпаж проста паставіў самалёт на аўтапілот і не звяраўся з яго паказнікамі. На момант гібелі адхіленне складала ўжо 500 км.

У 4 гадзіны 51 хвіліну самалёт увайшоў у савецкую паветраную прастору і пайшоў над Камчаткай, дзе знаходзілася сакрэтная ракетная база СССР. Шэсць савецкіх МІГ-23 падняліся на перахоп і правялі самалёт да мяжы савецкай паветранай прасторы. Калі ж а 6 раніцы «Боінг» зноў увайшоў у савецкую зону каля Сахаліна, было вырашана збіць «падазроны самалёт».


Амерыканскі выведнік RC-135 абрысам падобны да «Боінга», але не мае ілюмінатараў.

Цікавасць заходняй выведкі да гэтага рэгіёна саветам бачылася лагічнай: СССР напярэдадні зладзіў выпрабаванне новай ракеты класу SS-25. Запушчаная з палігона ў Плясецку, яна мусіла трапіць у цэль на Камчатцы. Саветы адрапартавалі пра паспяховы пуск ракеты, і заходнікам, безумоўна, хацелася праверыць гэтую інфармацыю.


Лётчык Генадзь Асіповіч, які збіў «Боінг» з 269 пасажырамі.

### Знішчальнікаў не вучылі

Як тлумачыў пасля выканаўца, лётчык знішчальніка Су-15 Генадзь Асіповіч, яго камандзіры лічылі, што перад імі — амерыканскі выведнік RC-135. Абрысам RC-135 сапраўды падобны да «Боінга». Сітуацыю ўскладняла і тое, што, як прызнаўся Асіповіч, савецкіх лётчыкаў... не вучылі адрозніваць заходнія самалёты грамадзянскай авіяцыі. Ён проста не ведаў, як выглядае цывільны «Боінг».

Лётчык казаў, што за чатыры хвіліны да знішчэння даваў «неапазнанаму аб'екту» сігналы бартавымі агнямі і рабіў папераджальныя стрэлы. Аднак, паколькі ён ішоў за «Боінгам», сігналы было б заўважыць цяжка. Дый страляў, не меўшы трасіруючых зарадаў, якія свецяцца, звычайнымі. Нават калі былі папярэджанні, экіпаж іх мог проста не заўважыць. Гэта ўскосна пацвярджаюць запісы з «чорных скрынак»: да самай ракетнай атакі экіпаж «Боінга» не падазраваў, што жыць засталося секунды.

### «Боінг» ляцеў з «мігалкай»

Толькі з гадамі лётчык Асіповіч прызнаўся, што бачыў: самалёт ішоў з «мігалкай» — адзнакай грамадзянскай авіяцыі. Бачыў, як свецяцца два шэрагі ілюмінатараў. Людзей за імі Асіповіч не разгледзеў — «не дужа і пабачыш з трохсот метраў». Пазней, прызнаўся лётчык, калі яны «карэкціравалі перамовы з зямлёй» (гэта значыць, фальсіфікавалі доказы трагедыі), ён сказаў на мікрафон, што мігалка не гарыць.

Яшчэ адным ускосным доказам «віны» палічылі тое, што «Боінг» пачаў зніжаць хуткасць (знішчальнік не можа ляцець павольней, чым 400 км/г — ён валіцца ў штопар). Цяпер лічыцца, што карэйскі самалёт запавольваўся, рыхтуючыся набіраць вышыню.

Камандзіры Асіповіча далі загад страляць. Збіты дзвюма ракетамі, «Боінг» з вышыні 9000 метраў упаў у мора каля вострава Манерон. Усе, хто быў у самалёце, загінулі.

### Ні ў чым не прызнавацца і валіць на Амерыку

У той самы дзень навіна пра збіты пасажырскі самалёт стала вядомая Палітбюро. Савецкія лідары былі ў разгубленасці і не ведалі, што сказаць — таму ТАСС абмежаваўся двухабзацавым паведамленнем пра тое, што ля савецкіх межаў бачылі разведвальны самалёт, далейшы лёс якога невядомы. Аднак савецкія грамадзяне, якія чыталі паведамленні ТАСС між радкоў, зрабілі з выразу «адбыў у бок Японскага мора» змрочны афарызм.

Трагедыю самалёта разглядалі на пазачарговым пасяджэнні Палітбюро. Яно праходзіла без удзелу Андропава, які адправіўся лячыцца і, варта адзначыць, больш да поўнага выканання абавязкаў ужо не вярнуўся.

Першы намеснік міністра замежных спраў СССР Георгій Карніенка прапанаваў Палітбюро прызнаць «трагічную выпадковасць» і выбачыцца перад сем'ямі ахвяраў і ўрадамі краін, грамадзянамі якіх яны былі. Карніенка прапанаваў таксама віну ўскласці на амерыканскі бок: маўляў, трагедыю справакавалі пастаянныя палёты разведвальных самалётаў ЗША ўздоўж мяжы. Але больш пераконлівым Палітбюро падаўся міністр абароны маршал Усцінаў, які даводзіў, што трэба цалкам адмаўляць віну СССР у гібелі карэйскага «Боінга».

9 верасня савецкі маршал Агаркаў прызнаў, што самалёт быў збіты, аднак да канца СССР вайскоўцы стаялі на тым, што гэта быў разведчык, а пра лёс пасажырскага яны не ведаюць. Лётчык Асіповіч увогуле быў пэўны, што «пасажырскі збілі амерыканцы».

Прэса вольнага свету ў першыя ж дні апублікавала праўду. У Сеуле прайшлі антысавецкія дэманстрацыі са спаленнем чырвоных сцягоў.

Хвалі выкінулі на беразе Сахаліна і Манерона больш за 200 прадметаў абутку, асабістых рэчаў, якія апазналі сваякі загінуўшых пасажыраў «Боінга» з Японіі і ЗША. Тое, што не знайшлі целаў, давала падставу для прапагандысцкіх спекуляцыяў — канспіролагі пісалі, што самалёт быў пусты або што ён сеў на савецкай тэрыторыі і ўсіх яго пасажыраў адправілі ў лагеры. Зрэшты, як можна сцвярджаць, што целаў не было? Калі ўлічыць, што крушэнне адбылося ў савецкіх тэрытарыяльных водах, а пасля быў загад схаваць канцы фатальнай памылкі ў вады?

Поўнае аб'ектыўнае расследаванне спецыялісты ICAO змаглі правесці толькі праз 10 гадоў — у 1993, калі па загадзе прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына «чорныя скрынкі» былі перададзеныя міжнародным спецыялістам. Кожная таямніца ўрэшце раскрываецца, як бы ні хацелася яе схаваць.

**Сяргей Мікулевіч**

Павал Касцюкевіч.
Апавяданне.

# Украіна ды іншыя

«Агнешка! Любая! Для нас няма больш месца. Наш час сышоў. Заставайся, каханне, бывай. Ужо пара — на жаль, усё вырашана за нас. Мы хацелі, каб наша вечнасць доўжылася і доўжылася, аднак яна завершыцца сёння. Агнешка! Любая! Ты ведаеш пра мяне сакрэтаў больш, чым хоць хто на гэтым свеце. Ты сама мой сакрэт. Я заўжды давяраў табе, адно баяўся, што кожны твой няўдалы дотык можа зрабіць мне балюча. Калі тады ў Варшаве мы, фактычна незнаёмыя людзі, выгаварыліся і распавялі адно аднаму ўсё дарэшты, дык я нават уявіў, як мы стаім насупраць адно аднога, голыя і збянтэжаныя. Хіба гэтая карціна, калі так падумаць, хутчэй смешная, чым сумная. Дзякуй, што за столькі гадоў ты не параніла мяне і маю сям'ю. І, ведаеш, яшчэ што? Мне ні грамулькі не сорамна, ніякай віны не чую. Ні перад кім! Ні тады, ні цяпер! Дакраніся кончыкамі пальцаў да вуснаў — уяві, што гэта дакранаюся я. Бывай, каханне!»


**Павал Касцюкевіч**
нар. у 1978. Беларускі празаік, перакладчык з англійскай і іўрыта, лаўрэат прэміі Гедройца — 2012 за кнігу «Зборная РБ па негалоўных відах спорту».

* * *

Праз гулкую пружанскую ноч ішлі двое. Стрункі, яшчэ не стары амерыканец у самавітым генеральскім палітоне і бялявы прысадзісты расеец, гадоў 60-ці, у шынялі з паднятым каракулевым каўняром. Яны мінулі хлопца, без пяці хвілін дзядзьку, механіка, што, перапэцканы каламаззю, увіхаўся каля разабраных шасі Су-34.

«Абарыген», — вызначыў амерыканец. З вопыту ён ведаў: на расійскіх базах за мяжой, як і на амерыканскіх, дробнымі механікамі ды бамбаношамі часам працуюць мясцовыя. Хіба, у адрозненне ад амерканскіх базаў, гэты беларускі рабацяга нічым асабліва не вылучаўся сярод сваіх расійскіх працадаўцаў. Той жа колер скуры, той жа выраз твару. Адно ў вачах нешта іншае, адметнае. Спрадвечны сполах, вусціш, ці што...

— Vladimir, — сказаў амерыканец, калі, спусціўшыся ў бункер, яны ўдвух селі за даўжэзны дубовы стол. — Я не хачу больш праблем.

Цяпер, калі мінулі гады пасля бамбавання Кіева, учыненага расейцамі, і праведнай адплаты, якая напаткала Севастопаль ад бомбаў амерыканскай авіяцыі, нават самаму някемліваму абарыгену на авіябазе пры выглядзе зацятых ворагаў, якія ішлі разам, усё мусіла стаць ясна.

— Vladimir, існуе верагоднасць, што ў будучым зноў сутыкнуцца нашы інтарэсы і зноў між намі пачнецца канфлікт, — працягваў амерыканец, цягамотна туды-назад раскручваючыся на крэсле. Ён, відавочна, не прыехаў нікога запэўніваць, але ж гутарку трэба было неяк пачаць.

Хлопец, без пяці хвілін дзядзька, не баяўся. Выраз яго твару, памылкова прыняты амерыканцам за сполах, папросту адбіваў цвярозае разуменне сусветных раскладаў. Разуменне плюс пакутлівае ўсведамленне сваёй поўнай нямогласці. Калі расеец і амерыканец занурыліся пад зямлю, хлопцу, без пяці хвілін дзядзьку, захацелася дасլаць ліст. Апошні ліст.

— Vladimir, зноў будуць гэтыя спрэчныя тэрыторыі, якія ні туды, ні сюды. Зноў шпіёнскія войны, узаемныя ўтойванні, сакрэты. А потым зноў пойдуць бамбаванні, хай сабе кропкавыя, але ўсё роўна малапрыемныя. А мне, далібог, абрыдла апраўдвацца перад камерамі! Залішнія сувязі з грамадскасцю шкодзяць справам!

...З Агнешкай ён пазнаёміўся на бязладным шопінгу ў Варшаве пяць гадоў таму. Ён тады яшчэ не ўладкаваўся механікам на авіябазу і таму мог вольна выязджаць за мяжу. На Маршалкоўскай ён на хвілінку прысеў ля нейкага фастфуда. Па-польскабеларуску спытаў у незнаёмай жанчыны дарогу — і яны прагаварылі восем гадзін, забыўшыся на закупы і фастфуд. Проста сядзелі ля стракатай шыльды з намаляванымі гамбургерамі і размаўлялі з дапамогай троххот агульных словаў. Усе пяць гадоў ён хаваў яе ад жонкі, а яна яго — ад мужа. Двойчы на год яны вырываліся ў беластоцкую ці брэсцкую гасцініцу для хапатлівых спатканняў ды амаль штодня пісалі адно аднаму доўгія лісты па электроннай пошце.

— Vladimir, я прыляцеў сюды, каб канчаткова вырашыць пытанне нейтральнай зоны. Шчырыя празрыстыя адносіны ў еўрапейскім кірунку — вось чаго я дабіваюся, калега. Каб для здрадаў і хлусні ў нашых справах проста не засталося месца. Так будзе лягчэй для нас усіх... і іх саміх... Беларусь, Малдова, Украіна...

— Украіна, Украіна, Украіна, — стаў паўтараць той, якога клікалі Уладзімірам. Паўтор, як заўсёды, заблытаў сэнс. Чаму амерыканец самую вялікую краіну сярод гэтых трох назваў апошняй? Паліткарэктнасць? Шпілька ў бок вялікай Расіі? Хаця якая цяпер розніца — справа вырашаная да ўзаемнага задавальнення.

Расеец ачомаўся пасля развагаў і ўпэўненым голасам абвесціў:

— Згода, калега, сёння ранкам. Нейтральная зона шырынёй з краіну. Вы з захаду, мы — з усходу. Нафтаправоды і газаправоды не чапаць — яны будуць пазначаны светлатрасамі. Беларусь, Малдова і Украіна павінны знікнуць.

Потым дадаў:

— Абяцаю. Ад заўтрашняга дня ў нашых адносінах будзе поўная празрыстасць — ніякіх здрадаў і сакрэтаў.

Вінцэсь Мудроў.
Апавяданне.

# Сустрэча ў Грасе

Я апынуўся ў Грасе — невялікім горадзе ў Прыморскіх Альпах — дзіўнай парой. Тою парою, калі з каменных муроў вадаспадамі абрынаюцца ружы з украпінамі фіялетавых бугенвіліяў, калі аліўкавыя гаі дрыжаць ад птушынага галасу і цёмныя конусы кіпарысаў працінаюць валошкавае, з празрыстай павалокай неба.

Віла, дзе жыў Іван Аляксеевіч, падалася мне несамавітай. Відаць, з-за шчыльна прычыненых аканіцаў і цёмных ценяў, якія кідалі на яе старыя пальмы. Адна з пальмаў стаяла непадалёк ад ганка, і я не ўтрымаўся ад спакусы памацаць далонню варсісты ствабур.

У грудзіне блукаў халадок хвалявання, але калі ўбачыў пісьменніка — высокага, сухарлявага, у белай піжаме і з газетай у руках, — хваляванне вомігам знікла. Твар аўтара «Антонаўскіх яблыкаў», майго ўлюбёнага твора расейскай прозы, нагадаў знакаміты рахманінаўскі партрэт пэндзля Канстанціна Сомава. Адна я нават падумаў: ці не Сяргей Васілевіч выйшаў мне насустрач? Але тут цёплая сухая рука паціснула мае пальцы і вушы працяла кароткае прозвішча: «Бунін».


**Вінцэсь Мудроў**
нар. у 1953 у Полацку ў сям'і вайскоўца. Пісьменнік. Лаўрэат прэміі Гедройца — 2014 за кнігу «Багун». Жыве ў Наваполацку.

Думаў, мяне запросяць у дом, але пісьменнік кіўнуў на лаўку, што стаяла пад кустом алеандра, і мы прыселі на яе, не зводзячы вачэй адзін з аднаго. Іван Аляксеевіч глядзеў мне не ў вочы, а некуды на бровы, і я зразумеў, у чым справа. Апрануўся па тагачаснай модзе, а вось акуляры замяніць забыўся, і іх выгляд, мяркую па ўсім, зацікавіў пісьменніка.

— А вы, Іван Аляксеевіч, падобны да Рахманінава, — прамовіў я, не пазнаючы ўласнага голасу.

— Да Рахманінава? А дзе вы яго бачылі? — Бунін скруціў у трубку газету — мілюкоўскія «Последние новости», — прыбіў тлустую муху, якая села на прыслон лаўкі.

— Ды я, уласна кажучы, кажу пра партрэт работы Сомава.

— А-а, Сомаў... Даўно яго не бачыў. А ён жа тут, у Парыжы, атабарыўся. Трэба будзе пры выпадку сустрэцца.

— Сомаву вельмі спадабалася «Міцева каханне». Піша пра гэта кожнаму знаёмцу.

Пісьменнік чарговы раз зірнуў на аправу маіх акуляраў, глыбока ўздыхнуў.

— Дзіўна гэта чуць. Дагэтуль ён не ўспрымаў маю творчасць і пісаў пра гэта ў сваіх эпістолях. Зрэшты, Бог з ім. Мастак ён някепскі. Прынамсі, звыродніцтва Кузьміна паказаў з уласцівым яму майстэрствам.

У спешцы я забыўся пра нататнік і толькі цяпер дастаў яго з нагруднай кішэні. У маім распараджэнні было пятнаццаць хвілін, і пытанняў было нарыхтавана таксама пятнаццаць. Напярэдадні вывучыў іх на памяць, але начыста забыў, і таму стаў ліхаманкава гартаць старонкі.

— Толькі, шаноўны, не пытайцеся, ці вярнуся я на Радзіму. Мне ўжо млосна ад гэтых пытанняў. Скажу адразу: пакуль у Расеі пануюць хамулы нямытыя, нагі маёй там не будзе. Ды і былой краіны ўжо няма. Цяпер на расейскіх прасторах жыве новая, дарэшты чужая мне цывілізацыя.

— Але вас там памятаюць. У ленінградскай друкарні тое ж «Міцева каханне» набралі. Дый, казаў той, tempora mutantur, et nos mutamur in illis.

— Гэта вы да чаго?

— Да таго, што ваш калега, Аляксей Талстой, таксама бальшавікоў лаяў, а вось даваліся вярнуцца.

— Абрыдла шляхетнаму графу па мэбляваных пакоях валэндацца ды французскую булку сухама аплятаць. Вярнуўся ў спадзеўцы, што зноў будуць на стале расцягаі ды «Смірноўская» ў запацелай пляшцы. Звыкся, гаротнік, у баброзых футры хадзіць. Бабёр яму наўрад ці дастанецца, а вось пабітай моллю лісіная дохай, магчыма, і разжывецца. А доха тая свойчас з чужога пляча рэквізаваная. Ды і атрымае яе толькі пасля таго, як гвалтаўнікам Расеі панегірыкі напіша.

— Аляксей Максімавіч на эпікурэйства не хварэе, але апошнім часам таксама на Усход паглядае.

— У Горкага іншая бяда. Любіць сын чырванадрэўшчыка казённую славу. Хай вяртаецца. Аркестр АДПУ яму туш сыграе. А гэтага дастаткова, каб у вачах сумленных людзей ператварыцца ў нягодніка.

— Як вы мяркуеце: каму з расейскіх белетрыстаў дадуць Нобелеўскую прэмію? — задаў я, нарэшце, першае пытанне, пазначанае ў нататніку.

— Калі ўжо яе і дадуць, дык Мяражкоўскаму. У яго еўрапейская вядомасць, лобі ў асяродку ангельскіх арыстакратаў.

— А Купрын? Ці, выбачайце, Бунін? Вы іх скідаеце з рахункаў? Вас жа, Іван Аляксеевіч, каторы год вылучае на Нобеля сам Рамэн Ралан.

— Мы з Купрыным задужа расейцы... — суразмоўнік задумаўся, збіраючыся яшчэ штосьці дадаць да сказанага, але тут з разнасцежаных дзвярэй вілы вырваўся на прасцяг жаночы голас:

— Я-ан! Абед на стале!

— У вас да мяне яшчэ шмат пытанняў? — расейскі класік падняўся з лаўкі, ляпнуў газетай па сцягне.

— Чатырнаццаць...

**— З будучыні? І як там, у Полацку... абсталявалі «пнеўматычную» пошту, як у Парыжы?**

— Выбачайце, але... — суразмоўнік махнуў газетай у бок вілы, — няма часу. Вера Мікалаеўна, жонка мая, да стала кліча. Як, дарэчы, ваша прозвішча?

— Мудроў.

— Ведаў я аднаго Мудрова, тэлеграфіста. У «Орловский вестник» нататкі пісаў. Вы, часам, не з Арла прыехалі?

— Не, з Полацка.

— Полацк... Старажытны горад. Неяк праязджаў праз яго. Надвор'е, памятаю, было ніякае: цемра, зімовы дождж сыпаў. Хацеў было спыніцца на суткі, цэрквы наведаць, але толькі зірнуў між цягнікоў і падаўся ў Піцер. Думаў пабачыць Усяслаўву цераам, а ўбачыў мокрую габрэйскую глухмень.

— Ян, усё стыне! — у голасе Веры Мікалаеўны чуліся ноткі лёгкай панікі.

— А інтэрв'ю для нейкай газеты рыхтуеце? — запытаўся Іван Аляксеевіч, ступіўшы на ганак вілы.

Я кіўнуў галавой і, схамянуўшыся, ўблытана прамовіў:

— Так, рыхтую матэрыял для «Нашай Нівы». Я інтэрв'юер з далёкай будучыні.

Пісьменніка, падобна, мае словы ніколькі не здзівілі. Ён пасвятлеў тварам і злёгку лясну ў газецінай — цяпер ужо па калене.

— З будучыні? Вось табе і маеш... І як там, у Полацку... абсталявалі «пнеўматычную» пошту, як у Парыжы?

— Ды зараз паўсюль інтэрнэт. Набраў тэкст, націснуў на клавішу — і яго ўжо чытаюць у Аўстраліі.

— У Аўстраліі? — рагатнуў Іван Аляксеевіч і непрыкметна для вока схаваўся ў пройме раснасцежаных дзвярэй.

У нетрах дома штосьці грымнула, пачуўся прыглушаны голас Буніна:

— Уяўляеш, Веруша, пятнаццаць хвілін на яго змарнаваў, а ён вар'ятам аказаўся. З будучыні, кажа, прыехаў... — я настрыніў слых, але ў гэты момант дзьмухнуў вецер з гор, зашумеў у высокіх пальмах і заглушыў словы вялікага пісьменніка.

**ФУТБОЛ**

### «Шахцёр» — «Дэры Сіці»




**Беларускія каманды** працягваюць змагацца за выхад у групавыя этапы еўракубкаў. 24 ліпеня ў Салігорску на стадыёне «Будаўнік» мясцовая каманда прыме ірландскі «Дэры Сіці». Пачатак а 20. Першы матч беларусы выйгралі 1:0. Таксама ў гэты дзень мінскае «Дынама» згуляе ў Фінляндыі з клубам «МюПа-47», а гродзенскі «Нёман» у Ісландыі — з «Хабнарф'ёрдзюрам».

**КАНЦЭРТЫ**

### «Разбітае сэрца пацана»

**24 ліпеня ў Jack Club (Няміга, 12)** адбудзецца канцэрт гурту «Разбітае сэрца пацана». Пачатак а 19.

### The UNB

**25 ліпеня а 19 у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** грае гурт «The UNB».

### Музычны сямейнік у Вайцюшках

**26 ліпеня а 12 на хутары Васілевічы (Наваградскі р-н)** пачнецца летні музычны сямейнік: выступіць Зміцер Вайцюшкевіч і WZ-Orkiestra.

### Harotnica

**27 ліпеня а 19 у TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** — выступ гурту Harotnica.

### Big Daddy Blues

**30 ліпеня а 19 у TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** выступае гурт Big Daddy Blues.

**ІМПРЭЗЫ**

### Freaky Summer Party-2014



**Асноўнай фішкай FSP-2014** стануць яркія фарбы холі, якія выкарыстоўваюць індусы на фестывалі Вясны (таксама вядомы як «Фестываль фарбаў»), багата пасыпаючы ўсіх удзельнікаў святочных шэсцяў і ўсё навокал. Яркія фарбы, мора эмоцый, мноства знаёмстваў і цікавых заняткаў — усё змяшаецца ў выбуховым кактэйлі, які разгорне новыя гарызонты гарадскога адпачынку. Фэст будзе праходзіць 26 ліпеня на Камсамольскім возеры ад 12 да 24 гадзіны.




### Манеты Другой сусветнай вайны

У калекцыі сабраны манеты краін — саюзніц па антыгітлераўскай кааліцыі ў Другой сусветнай вайне: Вялікабрытаніі, ЗША, Францыі, Нарвегіі, Нідэрландаў, Індыі і іншых краін, а таксама манеты іх праціўнікаў: Германіі, Італіі, Фінляндыі, Венгрыі, Славакіі, Румыніі і іншых краін. Выстава дзейнічае ў Нацыянальным гістарычным музеі (Маркса, 12) да 29 жніўня.






### «Заспявай.BY»

**27 ліпеня ў «Свеце кавы» (Коласа, 37)** — канцэрт пераможцаў конкурсу «Засьпявай.BY»: Лізаветы Леўчык, SP Kava, Віталя Варанко. Пры ўдзеле гурту TonqiXod. Пачатак а 19.

**АДПАЧЫНАК**

### «Мінск графа Чапскага»

**30 ліпеня суполка «Менскі велашпацыр»** ладзіць велаэкскурсію з пахам хмелю «Мінск графа Чапскага» — гэта падарожжа ў Мінск канца XIX стагоддзя, калі правінцыйны губернскі горад пачаў пакрысе набываць рысы еўрапейскай сталіцы. Падчас экскурсіі — наведванне музея піўзавода «Аліварыя». Старт у 18:30 ад велапраката «Адпачынак» каля Менскага замчышча (набярэжная Свіслачы насупраць Траецкага прадмесця). Запісвайцеся па нумары +375297040018.

**ВЫСТАВЫ**

### Рэчы паміж жыццём і смерцю

**Выстава «Рэчы паміж жыццём і смерцю»**, што экспануецца ў Гістарычным музеі (К. Маркса, 12), складаецца з тысячы дробных прадметаў, неабходных для выжывання ў акопах. Гэтыя рэчы сімвалізуюць розніцу паміж жыццём і смерцю, а таксама тое, што і на вайне чалавек застаецца чалавекам. Выстава распавядае пра штодзённае жыццё падчас вайнаў, носіць апалітычны і гуманістычны характар. Яна падрыхтавана Музеем Арміі ў Стакгольме ў супрацоўніцтве з вядомым калекцыянерам Турб'ёрнам Ленскугам.

### Самы вялікі хор у свеце

**У Цэнтры сучасных мастацтваў (Някрасава, 3)** да 15 жніўня праходзіць выстава арт-праекта сучасных латвійскіх мастакоў «Самы вялікі хор у свеце», які з'яўляецца адным з падзей серыі мерапрыемстваў, якія прадстаўляюць Рыгу як культурную сталіцу Еўропы 2014 года. Уваход вольны.

**КІНО**

### Малпа з аўтаматам

Планета малпаў: Рэвалюцыя
**Жанр:** фантастыка, драма, баявік
**Рэжысёр:** Мэт Рыўз
**У ролях:** Гэры Олдмэн, Джэйсан Кларк, Эндзі Сёркіс, Джудзі Грыр, Кэры Расэл, Кірк Ачэведа, Кевін Рэнкін
ЗША, 130 хв.

Пасля даследавання новых лекаў ад хваробы Альцгеймера свет захлынуў малпавы грып. Ад яго памерла большая частка людзей, а малпы, на якіх праводзілася даследаванне, ператварыліся ў разумных істот і сышлі з горада ў лясы. Пакуль людзі змагаліся за выжыванне, малпы стварылі сваё паселішча. Цяпер людзі аднаўляюць звыклы спосаб існавання: каб здабыць электрычнасць, яны хочуць запусціць старую ГЭС, што стаіць у тым самым лесе. Малкальм з некалькімі добраахвотнікамі спрабуе дамовіцца з Цэзарам, найбольш разумным важаком малпаў, мірным шляхам. Але і сярод малпаў, і сярод людзей ёсць зламыснікі.

Фільм працягвае гісторыю, расказаную ў фільме «Паўстанне планеты малпаў» (2011), якая адкрыла перазапуск кінафраншызы, заснаванай на рамане французскага фантаста П'ера Буля. Сюжэт гэтых фільмаў звяртаецца да падзей, якія маглі б адбывацца да гісторыі, апісанай у кнізе. Свет, дзе малпы становяцца не толькі такімі ж разумнымі, але і больш чалавечнымі за людзей, не перастае хваляваць творцаў.

Стужка атрымалася напружанай і шчымлівай. Характары некаторых прадстаўнікоў малпавага свету распрацаваныя ці не больш дасканала за характары людзей. Цэзар — асоба ўнікальная, міралюбная і добрая. Але малпавае грамадства расслойваецца, яму становяцца ўласцівыя паняцці дабра і зла.

Створаныя пры дапамозе камп'ютарнай графікі жывелы выглядаюць надзвычай рэалістычна. Намаляваныя не толькі ўсе малпы, але і іншыя жывёлы — коні, алені і мядзведзь.

**Настасся Уласава**



# Настасся Касянкова: **Прыгожая жанчына мае любога мужчыну**

Былая жонка Глеба запаліла на юбілейным канцэрце **гурту «Топлес»**.

Свой першы выхад на сцэну пасля 7-гадовага перапынку ў адным са сталічных клубаў эксжонка футбаліста Аляксандра Глеба аздобіла кароткай, але яркай прамовай, якая, па сутнасці, стала тэстам на пачуцце гумару прыхільнікаў папулярнай жаночай групы.

**— Насця, дапамажы растлумачыць паходжанне пачуцця гумару ў прыгожай жанчыны. Нам хапае таго, што вы смеяцеся з нашых жартаў, але кпіць самой — гэта ўжо занадта…**

— На жаль, менавіта так. Прыгожая жанчына, якой, дарэчы, я сябе не лічу, наогул мала здольная на самаадданыя ўчынкі — чытаць шмат мастацкай і пазнавальнай літаратуры, актыўна ўдзельнічаць у дыскусіях і семінарах або самааддана адстойваць грамадзянскую пазіцыю. У яе ёсць галоўнае. Ну а прыгажосці пакланяюцца практычна ўсе мужчыны — нават самыя адухоўленыя і разумныя, спадзяюся, з гэтым ты не станеш спрачацца?

**— Вядома, не.**

— Тады нашто ўпірацца? Перажыванняў вартыя толькі любоўныя праблемы — галоўным чынам, свае і трохі — сяброўчыныя. Ну і клопат пра ўласнае цела — як зрабіць яго лепшым з дапамогай пластычных аперацый, каб яно магло праслужыць гаспадыні як мага больш.

**— Ты крытычная.**

— Зусім не, у гэтым плане я такая ж, як і ўсе. Ну, можа быць, займаюся спортам крыху больш, чым іншыя.

**— А што яшчэ любяць казаць мужчыны? Упэўнены, што з тваім новым разведзеным статусам прапановы аб супрацоўніцтве сталі паступаць валам.**

— Мужчын і раней не спыняла наяўнасць пярсцёнка на безымянным пальцы. Чамусьці яны былі ўпэўнены ў слушнасці прыказкі «Муж — не сценка, можна і пасунуць». Ляціш у самалёце, табе дасылае візітоўку які-небудзь вядомы персанаж, там кампліментаў кшталту — «вы выдатна выглядаеце» і яго кантактныя тэлефоны. Па сцэнары, напэўна, я, як прыстойная жанчына, прыцягнутая магіяй вядомага імені, павінна яму набраць праз два-тры дні.

**— Які лёс чакаў візітоўку?**

— Пакідала ў самалёце, хай камусьці яшчэ пашанцуе. Ды ў мяне і месца ў візітоўніцы ўжо не было.

**— Выснова?**

— Прыгожая жанчына мае любога мужчыну. Прычым гэта нават не будзе залежаць ад яе разумовых здольнасцяў. На першым этапе мужчыну-паляўнічаму проста трэба яе дамагчыся, і дзеля гэтага ён можа пайсці на ўсё, што захоча жанчына.

**— Ок, вернемся да вытокаў. Дарэчы, ты нейк непрыкметна развялася з Сашам.**

— Як выйшла замуж, так і развялася — інкогніта. Зараз нават таемных сведак не спатрэбілася. Зрабілі гэта самі.

**— Пракаментуеш прычыны?**

— Не, вядома. Скажу толькі, што хачу пажадаць Сашу ўсяго найлепшага. Ён добры чалавек і вельмі таленавіты спартсмен, мы правялі разам 7 выдатных гадоў. Я разумею, што падклала свінню жоўтай прэсе, і чытачы свецкай хронікі не ўбачаць гіганцкіх загалоўкаў тыпу «Агаленая праўда Настассі» або «Горкі адказ Аляксандра». Чалавек слабы, жанчыну можна развесці на эмоцыі, і яна лёгка нагаворыць кучу лішняга. А навошта? Пакажыце мне таго, хто калі-небудзь пашкадаваў бы пра тое, што ў падобнай сітуацыі прамаўчаў.

**— Неяк ты ўзяла на сябе смеласць назваць футбалістаў не самымі інтэлектуальна развітымі людзьмі…**

— Сустрэчнае пытанне. Ты сябе лічыш інтэлектуалам?

**— Мабыць, не.**

— Ну і я сябе таксама, як і даволі значная колькасць маіх сяброў і прыяцеляў, многія з якіх маюць не адну вышэйшую адукацыю. Інтэлектуал — гэта вельмі высокае званне, чалавек фундаментальных ведаў у розных галінах навукі, культуры, гісторыі, палітыкі і г.д.

Даруй, але я такіх вундэркіндаў сярод футбалістаў не сустракала — ні ў «Арсенале», ні ў «Барселоне». Так, яны выдатныя і мілыя хлопцы, але ўсё жыццё займаюцца спортам, і ў іх проста бракуе сіл на іншыя рэчы.

А што, акцёры, мастакі і пісьменнікі — гэта такія адухоўленыя персанажы, разбіраюцца ва ўсім на ўзроўні знаўцаў? Зусім не, паглядзіш інтэрв'ю якога-небудзь вядомага акцёра і падумаеш: бедная яго жонка. Чалавек з разумным выглядам пераказвае лухту, пачутую па скрыні, і цалкам задаволены сабой — патрапіў у трэнд. А дзе ён сам, яго думкі і меркаванні, асоба яго дзе?

Мне, напрыклад, Саша Шаўкоўскі спадабаўся з кіеўскага «Дынама» — з задавальненнем чытала яго інтэрв'ю з нагоды падзеяў ва Украіне [Шаўкоўскі падтрымаў Майдан — «НН»]. Можна згаджацца з ім ці не, але асоба заўважная няўзброеным вокам.

**— Дапусцім, прыгожая жанчына перадусім глядзіць на наяўнасць… Ці я не маю рацыі?**

— Маеш. Гэта адна з умоваў кантракта — прыгожая жанчына заўсёды аддае перавагу мужчыну, які чагосьці дасягнуў у жыцці. У нас ёсць выбар, і ён рэзонны. Так як і паспяховы мужчына хоча за жонку прыгажуню, прычым пры кожнай нагодзе сцвярджае, што для яго галоўнае — душа. Ці я не маю рацыі?

**— Маеш. Крыўдаваць можна толькі на сябе — або за тое, што ты не стаў суперстар, або за тое, што табе падабаюцца прыгожыя жанчыны.**

— Адныя хочуць стаць кімсьці і дасягаюць сваёй мэты. Вось ім прыгожая жанчына і дастаецца як бонус. А іншыя толькі і жаляцца на тое, што ўсе бабы — прадажныя, і нічога не робяць для таго, каб адчуць сябе свабоднымі. Вядома, грошы не галоўнае ў жыцці, але яны гэтую свабоду даюць.

**— Але жыццё ў залатой клетцы хутка надакучвае.**

— Таму прыгожыя жанчыны знаходзяць сабе каханкаў. Яны ж па-ранейшаму карыстаюцца папулярнасцю ў мужчын.

**— Як кажуць, выйсці замуж можна і выпадкова, а ў каханкі трэба абіраць чалавека надзейнага.**

— Можа быць, але ў такой жа ступені гэтая мудрасць датычыцца і мужчын. Прыгожая дурніца падабаецца не ўсім, хочацца завесці сабе сяброўку, якая можа даць табе карысную параду. Вось чаму не ўсе палюбоўніцы прыгажэйшыя за жонак.

**— Але прынята лічыць, што жонкі спартсменаў круцяць імі як хочуць.**

— Спартсмены жэняцца, як правіла, у раннім узросце — са сваімі аднагодкамі. А жанчыны ў сваім развіцці — як фізіялагічным, так і сацыяльным, фарміруюцца хутчэй. І таму няма нічога дзіўнага ў тым, каб умовы будучага кантракта спартсмен у першую чаргу абмяркоўвае са сваёй будучай жонкай. Як ён выраішаць, так і будзе — думаю, у 90% выпадкаў гэта правіла працуе.

**— У вашым таксама працавала? Саша прызнаваў, што памыліўся, калі перайшоў з «Арсенала» ў «Барселону».**

— Я была супраць, але не хацела ўплываць на яго выбар. Мужу выпаў шанец паспрабаваць сябе ў найлепшай камандзе свету. Наколькі добра ён быў выкарыстаны — гэта ўжо іншае пытанне, але Саша цяпер ніколі не зможа сказаць: «Ах, калі б я не застаўся ў Лондане, а перайшоў у «Барселону», то хто ведае, як склалася б мая кар'ера надалей».

**— Табе даводзілася камунікаваць з гульцамі сусветнага топ-узроўню, чым яны адрозніваюцца ад нашых майстроў?**

— На першы погляд нічым — у маладых хлапцоў такая ж бесклапотнасць і лёгкасць у зносінах. Што тычыцца адносінаў да футбола, то ў заходніх гульцоў яны больш прафесійныя. Магчыма, там большы ціск, верагодна, пытанне ментальнасці таксама варта ўлічваць. Але я не ўяўляю, каб хто-небудзь мог ускочыць на стол у начным клубе і пераможна станцаваць на ім палкі танец у гонар чарговай перамогі.

**— І што ў гэтым дрэннага?**

— Розніца ва ўзроўні матывацыі. Для кагосьці выйгрыш чэмпіянату Беларусі — гэта вяршыня мараў, а камусьці і аднэй перамогі ў Лізе чэмпіёнаў мала. Сапраўдны прафесіянал зараджаны на большае, ён пераадольвае адну прыступку і тут жа пачынае штурмаваць наступную.

Гутарыш з Цьеры Анры і разумееш, што пры яго стаўленні да сябе і сваёй спартовай формы ён будзе гуляць у футбол доўга. Пасля спынення кар'еры стане іконай стылю (помнік яму ўжо стаіць) і дакладна будзе прэтэндаваць на нешта большае, чым проста прагляд матчаў таго ж «Арсенала» ў віп-ложы.

**— Што цябе захапляе, чаму б ты хацела прысвяціць сваё жыццё?**

— Мабыць, мне ўсё ж бліжэй сацыяльныя праекты, ідэі прасоўвання нашай краіны на міжнародным узроўні.

**— Напрыклад?**

— Учора гутарыла з Сэскам Фабрэгасам, атрымала прынцыповую згоду на інвестыцыі ў інфраструктуру Наваградка — горада, дзе я шмат гадоў жыла і які неразрыўна звязаны з гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага.

**— Нішто сабе…**

— Скажу болей, яго партнёрамі стануць нават хлопцы, з якімі ён гуляў у Англіі і Іспаніі. Цікавасць інвестараў простая: яны ведаюць Беларусь як надзейную і стабільную дзяржаву, куды выгадна ўкладаць грошы з перспектывай.

**— Насця, дык, можа, цябе на фоне славутых руінаў Наваградскага замка здымем? Каб у тэму інтэрв'ю патрапіць…**

— *(Згодна матляе галавой.)* Сяргей, ты рэальна павёўся? Ты ж у пачатку інтэрв'ю ў мяне пра пачуцце гумару запытаўся. Я не ведаю, адкуль яно бярэцца, але ведаю, што яно ніколі не павінна цябе пакідаць — нават калі табе зусім дрэнна. Да жыцця ўвогуле нельга ставіцца сур'ёзна толькі таму, што ніколі не ведаеш, што будзе заўтра. Згодны?

**Сяргей Шчурко, «Дынама»**



**Але жанчына заўсёды аддае перавагу таму мужчыну, які чагосьці дасягнуў**




АЛЯКСЕЙ ТРУБКІН, РАДЫЁ «РАЦЫЯ»

**25-ы фестываль беларускага року «Басовішча» прайшоў у выхадныя пад Гарадком (Польшча). На сцэне выступілі вядомыя гурты і выканаўцы: «Крама», «Зніч», «Тройца», Лявон Вольскі, Аляксандр Памідораў і іншыя. Не ўсе яны могуць атрымаць вялікія залы для выступаў у Беларусі. На «Басовішчы», як заўсёды, было шмат бел-чырвона-белых сцягоў.**



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Бясплатныя веласіпеды за «дзякуй» з'явіліся ля Цэнтральнага батанічнага саду. У кропцы пракату можна пры прад'яўленні пасведчання асобы абсалютна бясплатна ўзяць ровар напракат на тэрмін да двух гадзін. Акцыю «Веласіпед за «дзякуй» ладзіць сетка аўтазаправак «А-100», працягнецца яна да 31 жніўня.**


БЕЛТА

**Чарнічных караля і каралеву выбралі ў Полацкім раёне. У ягадным спаборніцтве «Полацкія чарніцы — 2014» бралі ўдзел больш за 120 камандаў. Ганаровыя званні «Чарнічны кароль» і «Чарнічная каралева» былі ўручаны Глебу Дзятлаву і Настассі Міразянок (на фота).**



**Рэдынг (Вялікабрытанія). Каралева Лізавета II фатаграфуецца з рабочымі-будаўнікамі падчас адкрыцця абноўленай чыгуначнай станцыі.**



## Анекдоты і жарты

* * *

— Вы так молада выглядаеце, у чым ваш сакрэт?

— Мне дваццаць.

* * *

— Прыходзіш на працу. Адчыняеш акно. А там туман і крычаць чайкі.

— Таму што мора?

— Не, таму што сметнік.

* * *

— Уладзімір Уладзіміравіч, амерыканцы ўльтыматум даслалі.

— Чаго хочуць?

— Патрабуюць, каб да чацвярга ўсю гэтую справу скончылі.

— А калі не?

— А калі не, тады санкцыі і вайна.

— Скажы ім вось што: фігу вайне!

— У сэнсе?

— Што ў сэнсе?

— Як гэта разумець?

— Не ведаю. А чаго ты за іх парышся. Хай самі думаюць.

* * *

Прапаршчык Ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння Іваноў спрабаваў справакаваць ядзерную вайну паміж Расіяй і Кітаем, разлічваючы схаваць нястачу 30 пар анучаў і дзвюх скрынь тушонкі на даверанымяму складзе.

* * *

— Скажыце, а што такое ДНР?

— Гэта Планета малпаў.

— А «Лайфньюз»?

— Гэта яе спадарожнік...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вайна пачалася.** Адно мы ўсе ведаць павінны: чым бы вайна ні скончылася, колькі бы людзей ні ўзяла яна на ахвяру, народы застануцца, перажывуць яе, залечаць свае раны, і пачнецца ізноў кіпучае жыццё. Дык кожын з нас, хаця б доля прыгатавала яму ліхі канец, павінен ведаць, што і пасля яго будзе жыць народ, што парастуць новыя пакаленні, да каторых належыць будучыня.

**«НН». №29. 1914.**

**Прыпыняючы рэчаіснасць.** Цяперашняя Рэспубліка Беларусь цяжка параненая п'янствам і алкагалізмам. Афіцыйная статыстыка не хавае, што праблемы з гэтым мае ледзь не кожны дзясяты грамадзянін нашай краіны. Выходзіць, што адзін мільён чалавек штодня перабывае ў своеасаблівай алкагольнай эміграцыі.

**«НН». №27. 2004.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7250. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 22.07.2014.
Замова №2799.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
